



# Рэгіянальная газета. Rh.by




НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА “Рэдакцыя газеты “Рэгіянальная газета”.

1 ліпеня 2016 года №27 **(1105)**




## З Днём вызвалення!

Артыкулы на гэту тэму чытайце на 6-й і 19-й старонках.

## Што гавораць пра дэнамінацыю






👍 7 спосабаў, як выкарыстоўваць манеткі

👍 Дзе атрымаць новыя грошы 1 ліпеня ў рэгіёне

Апытанне на тэму дэнамінацыі чытайце на 24-й старонцы.
На фота прадавец крамы “Каля рынка” ў Маладзечне Святлана Тумановіч.

старонка 2

Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

# Мы больш не мільянеры

# У Маладзечне правялі фестываль шансона з рэаліці-шоу

МАЛАДЗЕЧНА



Фота Дзмітрыя КАНДРАШОНКА.

Дзмітры Рудык: "Калі амаль у 40 год з'яўляецца шанс чагосьці дасягнуць, яго нельга прапускаць".

Падчас фестывалю адбываліся не толькі канцэрты вядомых расійскіх выканаўцаў, але і конкурс сярод мясцовых музыкантаў "Народны шансон". У ім перамаглі спявак **Дзмітры Рудык** і калектыў "Баравы і ко".

Каб абмеркаваць уражанні ад фестывалю, пераможцы завіталі ў рэдакцыю "РГ".

– Перад рэдакцыяй зайшоў на рынак, – распавядае **Юры Баравы**, лідар калектыву "Баравы і ко". – Бачу, што на мяне паглядаюць, пазнаюць. Прыемна.

– А ў мяне была вельмі прыемная сітуацыя адразу пасля конкурсу – далучаецца Дзмітры Рудык. – Падыходзіць да мяне мужчына і расказвае, што ён прыехаў да сваякоў з Калінінграда і якраз трапіў на фестываль. Так дзякаваў, прасіў яшчэ паспяваць.

Па задуме арганізатараў, Дзмітрыя Рудыка як пераможцу конкурсу запрасілі ў аўтамабіль, які суправаджала карнавальнае шэсце ад Цэнтральнай плошчы да амфітэатра.

– У машыне сядзім і думаем: гэта ж, напэўна, бакавое шкло апусціць трэба? – дзеліцца Дзмітры. – Ну, думаем, апусцім, галоўнае – усміхацца.

Фестываль "Залаты шансон" арганізаваў маладзечанскі Палац культуры. Свята складалася з некалькіх частак. У амфітэатры былі выступленні зорак жанру. А вось на пляцоўцы на Цэнтральнай плошчы выступалі ўдзельнікі рэаліці-шоу "Народны шансон".

У суботу, 25 чэрвеня, выбіралі лепшага сольнага выканаўцу, ім стаў Дзмітры Рудык. А ў нядзелю – пераможцу сярод калектываў ці дуэтаў, гараджане абралі калектыў Юрыя Баравога.

Выканаўцы спявалі па дзве песні, а гледачы галасавалі за тых, каго хацелі б бачыць у фінале. А сярод фіналістаў зноў жа гледачы абіралі пераможцаў.

Арганізатары падрыхтавалі шмат сюрпрызаў для гараджан: запусцілі сапраўдны паветраны шар проста ў парку, паказалі відовішчную танцавальную пастаноўкі.

Пераможцы "Народнага шансона" гавораць, што часу на падрыхтоўку нумароў у канкурсантаў было малавата. Іх запрасілі прыкладна за два тыдні да мерапрыемства, а за такі час новы нумар не падрыхтуеш, можна толькі паўтарыць ужо найгранае. Што тычыцца саміх выступленняў, то ў спёку вышэй за 30 градусаў конкурс на плошчы варта было б пачынаць не ў 16, а ў 18-19 гадзін:

– Гэта мы прывыклі ў любых умовах выступаць, – гаворыць Юры Баравы. – А гледачу трэба камфорт, ды і пачаць пазней.

Пераможцам спадабаўся фармат рэаліці-шоу, дзе лёс спевакоў вызначаюць гледачы. Але ўсё ж музыкантам, якія выступаюць на мясцовых пляцоўках, неабходна пачуць і ацэнку прафесійнага журы.

– Калі ты спрабуеш развівацца як спявак, то вельмі важная любая парада ці заўвага ад прафесіянала. Прычым лепш за ўсё запрашаць у журы людзей з боку, з іншых рэгіёнаў, – лічыць Дзмітры.

Спевакі мяркуюць, што невялікія заўвагі толькі палепшаць фестываль шансона ў будучыні:

– Для мяне гэты конкурс – як магчымасць ускочыць у апошні вагон. Калі амаль у 40 год з'яўляецца шанец чагосьці дасягнуць, яго нельга прапускаць, – шчыра адказвае Дзмітры пра важнасць для яго перамогі ў "Народным шансоне". – У нас вельмі шмат людзей спявае, толькі іх нідзе не свецяць.

– А я сябе выпрабаваў на сцэне не як акампаніятар, той, хто за вакалістам, а як саліст. Гэта абсалютна іншыя, непераадавальныя адчуванні! – дадае Юры.

Музыканты звярнулі ўвагу на тое, што за апошнія гады моцна пашырылася разуменне жанру шансона. Гэта ўжо даўно далёка не толькі "блатныя" песні.

– У Юрыя больш глыбокія тэмы, – тлумачыць Дзмітры. – Мне ж больш даспадобы эстрадны варыянт шансона. Для нас гэта песні з добрым сэнсам, увогуле цяпер шансон – гэта проста прыгожая песня.

**Дзмітры Рудык будзе выступаць у Вілейцы 2 ліпеня ад 22 гадзін на плошчы Леніна, а ў Маладзечне – 3 ліпеня ад 18 да 23 гадзін на прыступках кінатэатра "Радзіма". Канцэрты бясплатныя.**

Зоя ХРУЦКАЯ.

## ТЭМА НУМАРА




Фота mgazeta.com, sanatori.by, калаж "РГ".

Дзякуючы манеткам можна прымаць рашэнні ці вырашаць спрэчкі па прынцыпе "арол-рэшка".

# 7 спосабаў, як выкарыстоўваць манеткі

**Сёння кішэні грамадзян напоўняцца звонкімі манеткамі.**

Мы вырашылі ўзгадаць, як выкарыстоўваліся манеты амаль 30 гадоў таму і, магчыма, падказаць тым, хто ніколі не карыстаўся імі, што за капейкі можна не толькі набыць марожанае.

1. Па-першае, манеткі можна збіраць. Калі папяровыя грошы адкласці сабе на ровар, ролікі або іншыя дробныя радасці цяжкавата, бо ёсць спакуса ўлезці ў "заначку", то манеткі можна захоўваць у скарбонцы. Ну, не разбіваць жа яе з-за некалькіх манетак?

2. Усе гаспадары вам скажуць, што няма лепшай адвёрткі, чым манетка, якая амаль заўсёды знойдзецца ў кішэні кожнага.

3. Аматарам латарэек таксама больш не давядзецца псаваць манікюр, драпаючы ахоўны слой на ўсялякіх латарэйных білетах. І карткак экспрэс-аплаты таксама.

4. Заўсёды прайграяце ў спрэчках на "камень-нажніцы-папера"? Цяпер можна проста падкінуць у паветра манетку. Шанцы выйграць – 50%.

5. Ездзілі ў паездкі і зайздросцілі тым, хто кідае ў фантаны і мора манеткі, каб вярнуцца? Цяпер вы можаце рабіць гэта нароўні з усімі, не лічачы, што "гэта ж зараз кіну еўра, а па нашым курсе – гэта можна было паабедаць".

6. Ці ведаеце вы, што манеткі можна выкарыстоўваць і ў медыцынскіх мэтах. Прыкладзіце халодны метал манеткі да сіняка – пройдзе хутчэй.

7. І ў сёмым пункце нашых парадаў – выкарыстанне манет у якасці ўпрыгожвання інтэр'еру. Можна і вазы афармляць, і рамкі для фота, і карціны. А перад Новым годам успомніце, што ў многіх народаў ёсць прыкмета, калі загарнуць манетку ў фольгу і павесіць на ёлку, то фінансавая стабільнасць і дастатак на будучы год гарантаваны!

А вось дзе манеткамі больш не скарыстаешся, дык гэта ў аўтаматах з газаванай вадой. І не патэлефануеш па тэлефоне-аўтамаце за 2 капейкі…

Наталля ТУР.

# Дзе атрымаць новыя грошы 1 ліпеня

**Шэраг банкаў абяцае запоўніць банкаматы новымі ўзорамі грошай ужо ў пятніцу.**

Інфармацыя аб паступленні новай валюты будзе абнаўляцца на афіцыйным сайце вашага банка.

**"Банк БелВЭБ"** плануе 1 ліпеня загрузіць новымі купюрамі наступныя банкаматы:

– у Маладзечне на плошчы Цэнтральнай, 3, на вуліцы Хмяльніцкага каля рынку, па Вялікім Гасцінцы, 143-б, вуліцах Віленскай, 10, Грамадоўскай, 8, Скарыны, 16.

– у Астраўцы па вуліцы Валадарскага, 62-а і вуліцы Ленінскай, 14.

**"БПС банк"**:

– у Маладзечне па вуліцы Партызанскай, 6

– у Астраўцы па вуліцы Маркса, 1.

**"Белінвестбанк"**:

– у Маладзечне па Вялікім Гасцінцы, 143, па вуліцы Скарыны, 12-а і Прытыцкага, 27.

**"Белаграпрамбанк"**:

– у Валожыне па вуліцы Савецкай, 62.

– у Вілейцы па вуліцы 17 Верасня, 32.

– у Мядзеле па вуліцы Савецкай, 6.

– у Астраўцы па вуліцы Валадарскага, 2.

– у Ашмянах па вуліцы Савецкай, 99.

– у Смаргоні па вуліцы Савецкай, 25.

**"Беларусбанк"** плануе загрузіць новымі грашыма ўсе свае банкаматы за першыя суткі дэнамінацыі. У кожным банкамаце абавязкова будуць 5-рублёвыя купюры. А наміналам 200 і 500 рублёў загружаць у банкаматы не плануюць. Банкаматы не будуць выдаваць манеты.

Ад 1 ліпеня ў Беларусі ўводзяцца новыя грашовыя знакі ўзору 2009 года. Акрамя таго, мяняецца код беларускай валюты з BYR на BYN.

Ад 1 ліпеня да 31 снежня банкноты ўзору 2000 года разам з банкнотамі і манетамі ўзору 2009 года будуць у паралельным абарачэнні. Абодва варыянты абавязковыя да прыёму пры ўсіх відах плацяжоў.

На працягу наступных пяці гадоў – да 31 снежня 2021 года банкноты ўзору 2000 можна будзе абмяняць у банках без камісій і абмежаванняў.

За перыяд суверэнацці Беларусі гэта трэцяя дэнамінацыя, і самая маштабная – у 10 000 разоў. У 2000 годзе адбылася дэнамінацыя ў 1 000 разоў, а ў 1994 – у 10 разоў.

Аддзел інфармацыі.

# Аддай непатрэбную ежу таму, хто яе з'есць

МАЛАДЗЕЧНА

**Шукаючы інфармацыю у інтэрнэце, выпадкова наткнулася на суполку фудшэрынгу ў Маладзечне. Ого! Ежа задарма. Незвычайна! – падумалася мне.**


Фота забяспечанае Вольгай МУСКАЙ.

**Вольга Муская з Маладзечна арганізуе суполку людзей, якія рацыянальна ставяцца да ежы.**

А хто можа распавесці больш, чым сам ініцыятар ідэі? **Вольга Муская** пачала гэту справу у нашым горадзе і з ахвотай дзеліцца гісторыяй праекта.

Сама ідэя з'явілася ў Германіі, у Берліне. Асноўная мэта – ратаваць ежу, якая прыгодная для ўжывання. Аказваецца, што шмат прадуктаў, прыдатных для харчавання, часам выкідваецца вон. Напрыклад, гатэлі могуць выкінуць распачатыя прадукты, якія былі на сняданак, толькі таму, што парушаная цэласнасць упакоўкі. Пякарні могуць пазбаўляцца ад учарашняй выпечкі. У крамах на вітрыне можа быць прадукцыя, якая проста страціла прывабны выгляд, але дата тэрміну яшчэ здавальняючая.

Ды і самі людзі могуць дзяліцца сваёй ежай з іншымі: нехта купіў прадукт, але яму не спадабаўся смак. У іншага засталося шмат ежы пасля вечарыны. А хтосьці зразумеў, што больш няма куды ставіць слоікі з закаткамі. У Берліне стварылі спецыяльны сайт, дзе фудсэйверы – тыя, хто ратуе ежу – могуць рэгістравацца і даведвацца пра пункты, дзе можна забраць прадукты.

На гэтым сайце пазначана, што ўжо ў свеце ўратавана больш за 4,5 мільёна кілаграмаў ежы!

**Адно з правілаў гэтай ідэі – прадукты аддаюцца задарма.**



Фота vk.com.

У нашай краіне і суседняй Расіі такую справу арганізоўваюць праз суполкі ў сацыяльных сетках і пераважна дзеліцца ежай жыхары гарадоў-удзельнікаў акцыі. Дамовіцца пра гэта з крамамі і гатэлямі бывае складана.

Воля ўпершыню даведалася пра фудшэрынг з артыкула, дзе расказвалася, як мінчанка арганізавала такую суполку ў сталіцы. Чаму вырашыла ініцыяваць такое у Маладзечне? Вольга адказвае так:

– У Маладзечне цягам апошняга часу з'явілася больш новых крамаў, як вынік – больш прадуктаў харчавання, якія патэнцыйна могуць быць прыдатныя для фудшэрынгу. Тым больш эканамічная сітуацыя складваецца так, што камусьці гэта можа рэальна дапамагчы.

У Маладзечне інтэрнэт-суполка існуе ўжо каля трох месяцаў. Субяседніца ўдакладняе, што пераважна людзі забіраюць тое, што прапаноўвае яна сама. Але пакрыху і іншыя пачынаюць размяшчаць свае прапановы. Такая невялікая, але пазітыўная дынаміка не можа не натхняць.

Як маладзечанцы ўспрымаюць такую ідэю? Воля адзначае насцярожанасць. Бо ёсць стэрэатып: калі задарма – значыць, нешта сумніўнае. Вользе дзяліцца з іншымі не шкада, галоўнае – каб спатрэбілася.

Дзяўчына шчыра дзеліцца не толькі ежай. Калі ёсць магчымасць, купляе падгузнікі, цацкі, сродкі гігіены для дзетак-адказнічкоў і адносіць у дзіцячую бальніцу.

Такая сацыяльная актыўнасць ніколькі не перашкаджае выхоўваць дачушку Сашу, а таксама заставацца надзейнай падтрымкай мужу Аляксандру.

Ці ёсць у праекта перспектывы?

– Канешне! – упэўненая Вольга. – У яго цікавая будучыня, не толькі ў віртуальным свеце, але і ў рэальным жыцці.

**Юлія МАРОЗ,**
**Маладзечна.**

ЛІЧБА НУМАРА

**5 мільёнаў рублёў**

самая буйная банкнота ў гісторыі Беларусі

Паводле Нацстата

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 23.06 | 30.06 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 19 759,00 | **20 053,00** |
| Еўра | 22 264,00 | **22 210,00** |
| Злоты | 5 096,49 | **5 023,00** |
| Расійскі рубель | 310,07 | **312,12** |
| Грыўня | 793,17 | **805,30** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 29.06** | | |
| Еўра | 22100/22400 | **22000/22400** |
| Долар ЗША | 19650/19830 | **20000/20300** |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 22.06 | 29.06 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 143 800 | **143 700** |
| Сасіскі, 1 кг | 58 500 | **58 500** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 31 500 | **31 200** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 80 000 | **80 000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 41 800 | **41 800** |
| Селядзец, 1 кг | 57 000 | **55 000** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 132 000 | **125 000** |
| Рыс, 0,9 кг | 15 000 | **15 000** |
| Грэчка, 0,8 кг | 21 500 | **21 500** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дзясятак | 14 500 | **14 500** |
| Алей "Дзіўны", 1 л | 24 000 | **24 000** |
| Маянэз, 200 г | 6 600 | **6 600** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14 500 | **14 500** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 38 500 | **38 500** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 16 500 | **16 500** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 11 900 | **9 500** |
| Часнок, 1 кг (малады) | 84 500 | **77 900** |
| Капуста, 1 кг (маладая) | 8 900 | **8 500** |
| Морква, 1 кг (маладая) | 12 900 | **14 000** |
| Баклажаны, 1 кг | 45 000 | **39 500** |
| Лімоны, 1 кг | 44 900 | **50 000** |
| Апельсіны, 1 кг | 24 500 | **23 000** |
| Мандарыны, 1 кг | 24 900 | **29 000** |
| Нектарыны, 1 кг | 45 000 | **38 500** |
| Абрыкосы, 1 кг | 40 000 | **37 500** |
| Ківі, 1 кг | 29 000 | **29 000** |
| Буракі, 1 кг | 6 000 | **12 500** |
| Памідоры, 1 кг | 27 000 | **23 000** |
| Агуркі, 1 кг | 7 900 | **8 500** |
| Перац, 1 кг | 50 000 | **59 500** |
| Кавун, 1 кг | 20 000 | **15 000** |
| Дыня, 1 кг | - | **38 000** |
| Кабачок, 1 кг (малады) | 12 900 | **11 900** |
| Клубніцы, 1 кг | 28 000 | **30 000** |
| Чарэшні, 1 кг | 45 000 | **50 000** |
| Вінаград, 1 кг | 49 900 | **50 000** |
| Бананы, 1 кг | 20 000 | **22 900** |
| Яблыкі, 1 кг | 14 900 | **14 500** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 29 900 | **29 900** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 18 000 | **18 000** |
| Масла, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Тварог, 1 кг | 55 000 | **55 000** |
| Бульба, 1 кг (маладая) | 12 900 | **11 000** |
| Сала, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 20 000 | **20 000** |
| Мёд, 0,5 л | 60 000 | **60 000** |




Кацяня, якое прыехала на мыйку на "Пежо", назвалі Пыжыкам.

## На аўтамыйцы ў Маладзечне жыве кацяня, якога кліентка прывезла пад капотам

МАЛАДЗЕЧНА

**Адна з кліентак аўтамыйкі, сама таго не ведаючы, прывезла пад капотам маленькае кацяня. Цяпер яно – талісман аўтамыйкі.**

Гісторыя здарылася ў адзін звычайны працоўны дзень на аўтамыйцы, калі туды прыехала кліентка на машыне "Пежо".

Калі хлопцы, работнікі мыйкі, сталі паліваць аўто вадой, пачулі з-пад капота енк кацяняці.

Адкрылі капот, дасталі маленькае, худзенькае, карэлае і перапалоханае кацяня.

– Мы ваша кацяня знайшлі пад капотам, – звярнуліся хлопцы да сваёй кліенткі.

– Яно не маё, – разгубілася жанчына. – Я не ведаю, што з ім рабіць. Можа, пакінеце сабе? Мне яно не трэба, – сказала жанчына і з'ехала з мыйкі, пакінуўшы хлопцам гэтага гадаванца.

– Нават пытанняў не ўзнікла, што з ім рабіць, – распавядае ўладальнік мыйкі **Аляксандр Казлоў**, – пакінулі сабе. І раз прыехаў на "Пежо", то і мянушку атрымаў Пыжык. А што, стане цяпер талісманам. Ведаеце, усе кліенты, што прыязджаюць на мыйку, з замілаваннем на яго глядзяць – ой, які ў вас коцік, кажуць. Хай жыве. Уладкуем на работу вартаўніком, – смяецца Аляксандр.

**Наталля ТУР.**

## Новыя грошы – часовыя нязручнасці. Будзьце пільнымі

**Ад пятніцы, 1 ліпеня, у зварот уводзяцца новыя грошы.**

У сувязі з гэтым міліцыя не выключае магчымасці, што колькасць злачынстваў, такіх як махлярства і фальшываманецтва, павялічыцца.

Асаблівую занепакоенасць выклікае самая ўразлівая катэгорыя насельніцтва – гэта пажылыя грамадзяне.

Можна прывесці найбольш тыповыя віды такіх супрацьпраўных дзеянняў:

– выкарыстанне ашуканцамі ў разліках і абмене грашовых сродкаў купюр замежных дзяржаў, вонкава падобных па выглядзе, але меншых за намінальны кошт;

– выкарыстанне выведзеных з грашовага абарачэння купюр і манет і такіх, якія не з'яўляюцца плацежным сродкам;

– шляхам частковай падробкі купюр (зменай наміналу, падчыстак, дамалёвак і г.д.);

– выраб з выкарыстаннем каляровых лазерных прынтараў падробных купюр узору 2009 года з мэтай іх далейшага збыту насельніцтву;

– выкарыстоўваючы недасведчанасць грамадзян пра час спынення абарачэння грашовых знакаў узору 2000 года, ашуканцы могуць прапаноўваць сваю дапамогу па абмене грошай і г.д.

У Рэспубліцы Беларусь фальшываманецтва з'яўляецца крымінальна каральным дзяяннем.

Крымінальная адказнасць за выраб, захоўванне з мэтай збыту або збыт падробак прадугледжаная артыкулам 221 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь у выглядзе абмежавання волі на тэрмін ад 2 да 5 гадоў або пазбаўлення волі ад 2 да 15 гадоў з канфіскацыяй маёмасці або без канфіскацыі.

**Паводле Маладзечанскага РАУС.**




Мужчыны спадзяваліся на лёгкія грошы, замест іх атрымалі вельмі цяжкія наступствы.

# Замест лёгкіх грошай "зарабілі" на турму

АСТРАВЕЦ

**Падзеі, якія разгарнуліся адной раніцай ў леташнім лістападзе на мяжы з Літвой сталі лёсавызначальнымі адразу для чатырох замежных грамадзян і двух беларусаў.**

А пачыналася ўсё так.

Азат даў дакладныя ўказанні для Паўла, як перавезці з Масквы праз Беларусь да літоўскай мяжы трох грамадзян В'етнама. Павел разумеў, што за гэту паслугу яго кішэні папоўняцца не адной 100-доларавай купюрай.

Ён быў у прызначаным месцы ў прызначаны час. Доўга чакаць не давялося. Хутка ў яго машыну селі трое мужчын, якія шукалі новага жыцця ў Еўропе. Менавіта іх і трэба было перавезці ў Літву.

На другой машыне іх суправаджаў іншы ахвотнік падзарабіць – спадарожнік Жора.

Павел дзейнічаў строга па інструкцыі. І спачатку ўсё ішло па плане.

Пажыўшы ў Мінску пяць дзён, Павел з даверанымі в'етнамцамі працягнуў дарогу, толькі без суправаджэння Жоры. Апошняму не захацеў заплаціць Азат.

Павел жа хацеў давесці пачатую справу да канца. Раней яму не даводзілася быць на беларускай Дзяржаўнай мяжы, і мужчына разумеў, што пераправіць трох чалавек праз яе адзін ён не зможа.

Памочнік у гэтай справе знайшоўся сабе сам. На гадзінніку было шэсць. У тую раніцу жыхару Варнянаў Віталю вельмі хацелася выпіць. Менавіта яго на скрыжаванні каля крамы з бутэлькай у руцэ і заўважыў Павел. Віталь шукаў сабутэльніка.

**Павел прыкінуў, што за сотню "зялёных" Віталь правядзе пасажыраў да лепшага жыцця.**

Жыхар Варнянаў не адразу пагадзіўся, але ўсё ж яго ўдалося заахвоціць. Ён размясціў грамадзян В'етнама ў доме сваіх сваякоў у вёсцы, у якім даўно ніхто не жыў.

Электрагазазваршчык мясцовага СВК Дзмітры зарабляў няшмат, а ў сям'і на яго плячах былі маці і тры малодшыя сястры. І так у 21 год маладзён таксама далучыўся да кампаніі перапраўшчыкаў.

Павел завёз в'етнамцаў да пэўнага месца ў лесе каля Катлоўкі. Месца было яму незнаёмае, таму мужчына застаўся чакаць у машыне. Віталь і Дзмітры з трыма в'етнамцамі рушылі ў лес, да мяжы.

Хаця Дзмітры і быў з імі хутчэй за кампанію, па просьбе знаёмага Віталя, але вельмі хацеў зарабіць лёгкія грошы. Таму і пагадзіўся на авантуру.

Хутка стала вядома, што пагранічны нарад у той дзень затрымаў трох в'етнамцаў, жыхара Варнянаў Дзмітрыя, грамадзяніна Кыргызскай рэспублікі Паўла. А праз паўдня затрымалі і Віталя.

Прага да лёгкай нажывы адыграла сваю ролю. У гісторыі разабраўся суд і абвінаваціў трох чалавек.

Магчыма, арганізатар незаконнай міграцыі Азат і сёння займаецца падобным бізнесам. А вось Паўлу давядзецца сядзець тры з паловай гады ў калоніі ўзмоцненага рэжыму, Віталю тры гады, а Дзмітрыю пакаранне адтэрмінавалі на два гады.

Кожнаму фігуранту крымінальнай справы дадалі ў якасці пакарання канфіскацыю маёмасці.

**Анастасія ГРАБОЎСКАЯ, старшы памочнік пракурора Астравецкага раёна.**

## Хлапчукі падпалілі суседу хлеў і пайшлі гуляць у камп'ютар

СМАРГОНЬ

20 чэрвеня ў службу "101" паступіла паведамленне аб тым, што гарыць хлеў у вёсцы Кушляны Смаргонскага раёна.

Пазней высветлілася, што двое сяброў 8 і 9 гадоў узялі запалкі, трохі бензіну і накіраваліся да суседскага хлява. Там падпалілі намочанае бензінам рыззё, паклалі яго на салому і пайшлі ў дом гуляць у камп'ютарныя гульні. Дым і полымя ўбачыла маці аднаго з хлопчыкаў, а суседзі выклікалі пажарных.

Агнём знішчаны маёмасць і дах гаспадарчай пабудовы, свойскую жывёлу, якая знаходзілася ў хляве, удалося выратаваць.

Верагодней за ўсё, юныя падпальшчыкі цяпер будуць пастаўлены на ўлік у інспекцыю па справах непаўналетніх, а бацькам прыйдзецца не толькі растлумачыць дзецям наступствы гульняў з агнём, але і кампенсаваць матэрыяльную шкоду, нанесеную суседу.

**Паводле mchs.gov.by**

## Сёлета скралі ўдвая больш ровараў

ВІЛЕЙКА

За перыяд ад 1 студзеня ў раёне скралі 16 ровараў, але знайшлі падазраваных толькі ў пяці выпадках.

За аналагічны перыяд летась скралі сем ровараў.

У горадзе іх крадуць з пад'ездаў, падвалаў, грамадскіх месцаў, дзе іх пакінулі без нагляду.

Каб ровар у вас не скралі, трымайцеся наступных парад:

– не пакідайце яго без нагляду там, куды могуць свабодна прыйсці чужыя людзі.

– калі пакідаеце, абавязкова прышпільвайце тросам да іншага прадмета

– абавязкова зачыняйце падвалы і пад'езды

– не пускайце ў пад'езд чужых людзей

За крадзеж можна атрымаць пакаранне – ад штрафу да трох год пазбаўлення свабоды.

**Аддзяленне крымінальнага вышуку Вілейскага РАУС.**

# "Які турызм, калі патэльню праз мяжу не пускаюць?"

## Чаму турысты не спяшаюцца ў Беларусь

**Пакуль турыстычны сезон у самым разгары, беларусы не толькі ездзяць адпачываць, але і самі прымаюць замежных гасцей. Ці ахвотна едуць да нас турысты і што іх палохае?**



Фота забяспечанае Святланай РЭДЗЬКІНАЙ.

Гаспадыня аграсядзібы на Мядзельшчыне Святлана Рэдзькіна.

– Праз тыдзень у мяне адпачынак.

– Дык прыязджай да нас у Беларусь!

– Цудоўна! Прыеду, я ж ніколі ў вас не быў.

– Добра, зараз дашлю табе скан свайго пашпарта, каб табе далі візу.

– Якую візу?

– Беларускую. Прынясеш у амбасаду неабходныя дакументы, заплаціш 25 еўра, і праз тыдзень віза твая!

– Ой, ведаеш, давай наступным летам у Беларусь… А сёлета лепей у Італію…

Такі дыялог меў ледзь не кожны, хто мае сяброў за заходняй мяжой. Да нас хочуць наведацца многія, але ж не многія даязджаюць.

### Літоўцы баяліся плаваць па Вілейскім вадасховішчы

– На жаль, у Беларусі негатыўны імідж за мяжой, – кажа **Сяргей Плыткевіч**, фатограф, дырэктар фонду падтрымкі дзікай прыроды "Чырвоны бор". – Таму замежнікі здзіўляюцца: чакалі ўбачыць, як мы капусту лапцямі ямо, а тут так прыгожа! Так, мы не можам канкураваць з Чэхіяй у колькасці замкаў – так склалася гісторыя. Але ў плане прыроды – можам! І на гэта трэба рабіць стаўку.

Часам негатыўны імідж даводзіць да камічных сітуацый.

– Калі мы рабілі сплаў па Віліі, літоўцы пыталіся, ці сапраўды можна плыць па Вілейскім вадасховішчы – гэта ж стратэгічны аб'ект, нас арыштуюць. Людзі проста баяцца, – распавядае Сяргей Плыткевіч.

І дадае, што візы блакуюць уязны турызм:

– Калі б не было віз, нарачанскія турыстычныя арганізацыі маглі б рабіць сумесныя праграмы з літоўскімі партнёрамі. І гэта прыцягвала б кліентаў: купляеш адзін тур, а наведваеш дзве краіны.

Па словах спадара Сяргея, праблема не толькі ў візах, але і ў самой мяжы.

– Пасля таго, як увялі абмежаванні па ўвозе тавараў, мае сябры не змаглі ўвезці ў Беларусь вялікую патэльню для гатавання паэльі. Які можа быць турызм, калі праз мяжу нават патэльню не пускаюць? Проста нейкая дыверсія супраць беларусаў! Гэта не дае шансаў на паспяховае развіццё турызму.

Больш пазітыўна на сітуацыю глядзіць **Валянцін Цахмейсцер**, дырэктар Рэспубліканскага саюза турыстычных арганізацый:

– Нельга сказаць, што ў турыстычным плане ў нас нічога не мяняецца. Напрыклад, цяпер наша Міністэрства замежных спраў разглядае ўказ аб тым, каб грамадзяне бяспечных у міграцыйным плане еўрапейскіх краін маглі наведваць Беларусь без візы тэрмінам да 10 дзён. Чакаем, што пашырыцца спіс мерапрыемстваў, на якія можна будзе прыехаць у Беларусь без віз – спартыўныя спаборніцтвы, фестывалі і канцэрты. Магчыма, гэта не так шмат, але вада камень точыць.

### Палохаюць візы, інфраструктура і моўны бар'ер

Каб зразумець, як выглядае сітуацыя на месцы, звяртаемся да тых, хто гатовы прымаць замежнікаў у рэгіёне.

– Вядома, адмена віз павялічыла б прыток турыстаў, – пагаджаецца **Святлана Рэдзькіна**, гаспадыня аграсядзібы ў Мядзельскім раёне. – Цяпер каля 20% нашых кліентаў – гэта расіяне, 5% – літоўцы. Многія літоўцы маюць у Беларусі від на жыхарства, таму адпачываюць у нас. Часам тэлефануюць з Эстоніі і Латвіі. Кліентаў з іншых краін не было.

Ёсць моманты і акрамя віз, якія палохаюць замежнікаў. Напрыклад, тое, што ў месцах адпачынку няма дзе падсілкавацца.

– Літоўцы кажуць, што ў такіх турыстычных месцах, як нарачанскія вёскі, у Літве было б мінімум тры пункты харчавання, – заўважае спадарыня Святлана. – У Беларусі ж – ніводнага. Даводзіцца на машыне ехаць за дзесяць кіламетраў, ды і там кіроўца не зможа выпіць, бо назад зноў вяртацца на машыне.

Яшчэ адзін негатыўны момант, які адзначае суразмоўца, – моўны бар'ер. Калі з турыстамі са славянскіх краін яшчэ можна паразумецца, то англійскай мовай валодае мала якія гаспадар аграсядзібы.

– Агулам я лічу, што беларускія аграсядзібы гатовыя прымаць іншаземцаў, – падсумоўвае Святлана Рэдзькіна. – Узровень камфорту тут не адрозніваецца ад еўрапейскіх пансіянатаў, а часам і перавышае яго. Магу сказаць гэта ўпэўнена, бо сама праехала на машыне праз 17 еўрапейскіх краін і шмат дзе спынялася на начлег.

## Выхад Брытаніі з ЕС зменшыў шанцы беларусаў на шэнгенскія візы па 35 еўра

На першы погляд, структурныя перамены ў Еўрапейскім саюзе мала ў чым кранаюць беларусаў. Ці праўда гэта, "Рэгіянальнай газеце" тлумачыць даследчык універсітэта Уэстмінстэра (Лондан) **Алесь Герасіменка**:

– Выхад Брытаніі з ЕС – гэта падзея для Еўропы параўнальная, калі глядзець на апошнія 50 гадоў, хіба што з руйнаваннем Берлінскай сцяны. Але гэтым разам сцены не руйнуюцца, а будуюцца. Існы праект еўрапейскай інтэграцыі, які ў тым ліку быў заснаваны на вольным руху людзей, цяпер будзе грунтоўна перагледжаны. Бо тыя, хто галасаваў за выхад з ЕС, кажуць, што галоўнай прычынай іх рашэння была некантраляваная міграцыя. "Мы хочам вярнуць кантроль за міграцыяй", – казалі яны. Цяжка даць ацэнку, ці атрымаецца гэта, але міграцыя сапраўды іграла вельмі сур'ёзную ролю пры выбары адказу звычайнымі брытанцамі.

І гэта цяпер прымусіць ЕС задумацца, як спыніць іншыя краіны Заходняй Еўропы ад выхаду з саюзу. І тут лагічным выглядае простае рашэнне: яшчэ болей узмацніць кантроль за межамі, прыпыніць любыя перамовы па спрашчэнні і адмене візавага рэжыму – іншымі словамі, спрабаваць закрыць любыя шчыліны для мігрантаў. Бо візы як у нас, гэтак і ў ЕС, на жаль, дагэтуль асацыююць з міграцыяй – што памылкова, вядома. Але эмоцыі і нават паніка робяць сваё: бязвізавыя рэжымы, якія мусілі ўвайсці ў дзеянне з Грузіяй і Украінай ужо гэтым летам, былі адкладзеныя.

Болей за тое, можа быць перагледжаная аснова Шэнгенскага пагаднення. Пра гэта казалі некаторыя крыніцы ў еўрапейскіх урадах. І пагадненні пра спрашчэнне візавага рэжыму – у тым ліку з Беларуссю – давядзецца, пэўна, абмяркоўваць наноў.

Зрэшты, з паглыбленнем ЕС у крызіс яму будзе ўсё менш і менш цікава тое, што адбываецца навокал. І гэта значыць, ЕС будзе менш цікавіцца, у тым ліку і Беларуссю – энергіі і часу банальна на гэта не застанецца. А гэта значыць, мы будзем пакінутыя сам-насам з нашымі бязвізавымі амбіцыямі. Зноў ку.

Таму выхад Брытаніі з ЕС калі не перакрэсліў, то сур'ёзна зменшыў шанцы на шэнгенскія візы па 35 еўра для беларусаў у хуткай будучыні. Беларусам застаецца спадзявацца толькі на сябе. Калі яны сапраўды хочуць лепшых умоў для вандровак і кантактаў са сваімі суседзямі, яны мусяць дзейнічаць і дамагацца гэтага сваімі высілкамі.



Даследчык універсітэта Уэстмінстэра (Лондан) Алесь Герасіменка.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

Аляксандр Харытон паказвае спаленае Краснае на трафейным здымку.



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

Месца масавай гібелі жыхароў красненскага гета. На фота справа гэта месца пазначанае пад нумарам 4.




Архіўнае фота.

Аэрафотаздымак Краснага, зроблены нямецкім разведчыкам 22 ліпеня 1944 года.

# Гарачы попел сорак чацвертага

## Красненец Уладзімір Харытон лічыць, што памяць павінна быць увекавечаная

**Ураджэнец Краснага, а цяпер жыхар Нью-Ёрка Марк Хамічонак знайшоў у архівах Кангрэса ЗША здымкі, звязаныя з гісторыяй свайго роднага мястэчка. Адзін з іх зроблены нямецкім аэрафатографам 22 ліпеня 1944 года. У той час Краснае ўжо было вызваленае ад фашыстаў.**

Мы размаўляем з адным нешматлікім жыхаром Краснага, які памятае мястэчка тых часоў.

Аляксандр Харытон сустракае нас у тым доме, дзе ён правёў сваё даваеннае дзяцінства, гады вайны і сёння жыве ў ім. Сядзіба Харытона спускаецца да берагоў пакручастай, але ціхай Ушы.

Тапаграфію Краснага старажыл ведае дасканала, да драбніц. Кожны паварот той самай Ушы ён пазнае на здымку. Таму і арыентуецца ў гэтым архіўным ваенным фота дакладна.

– Гэты дакумент мае для мяне вельмі страшную сілу, бо я ўбачыў сябе ў гэтым попеле, – гаворыць Аляксандр Харытон і паказвае на здымку месцы, дзе ўгадваюцца падмуркі спаленых дамоў. – Хто быў бяднейшы, будаваўся без фундаментаў, у таго і знаку ад дома магло не застацца.

Мой суразмоўца кажа, што кожны з тых, хто перажыў вайну ў Красным, можа ўспомніць рознае. І Галакост, калі тут знішчылі каля трох тысяч яўрэяў, і 44-ы год, калі мястэчка было амаль цалкам спаленае.

– Немцы палілі, савецкія самалёты крыху далі. А мне, тады сямігадоваму хлапчуку, запомніўся гэты попел. Ідзеш па вуліцы, па цэментных ходніках, сярод гарачага попелу. Збочыць не можна. Горача, ды і на папялішчы засталіся цвікі, бітае шкло... І коміны. Наша хата ацалела, яшчэ некаторыя тут, з боку Маладзечна, а ў бок Мінска, па былой Радашкоўскай вуліцы, цяпер імя 17 Верасня, згарэла ўсё скрозь.

### Трэба ўвекавечыць памяць

Аляксандр Харытон паказвае на архіўным здымку чатыры прамавугольнічкі на ўскрайку Краснага ў кірунку Маладзечна ля "Зялёнага моста". Там былі баракі канцлагера, дзе ўтрымліваліся савецкія ваеннапалонныя. Непадалёк за лініяй агароджы ўгадваецца цёмная пляма.

Па словах Аляксандра Уладзіміравіча, там брацкая магіла нацысцкіх ахвяр з канцлагера.

Некалькі гадоў таму мы пісалі аб гісторыі ваеннапалонных. Спецыяльны пошукавы батальён рабіў раскопкі ў меркаваным месцы агульнай магілы, але нічога не знайшлі. Гэта месца да вайны было чыстым полем, сёння яно зарасло лесам і зарыентавацца дакладна па вусных аповедах старажылаў цяжка.

– Цяпер жа мы маем дакладны дакумент з дакладнымі каардынатамі, – кажа Харытон.

Большасць нашых чытачоў ведае, мабыць, месца стыхійнага базарчыку пры ўездзе з Маладзечна ў Краснае. Там прадаюць першыя духмяныя суніцы і чарнабокія з кіслінкай чарніцы. Ведайце, што ягады маглі расці на месцы расстрэлаў і безыменных незаўважных сёння магілах соцень, а можа і тысяч забітых чырвонаармейцаў.

– Адкуль, Аляксандр Уладзіміравіч, такая ўпэўненасць, што дзесьці там гэтыя магілы? – пытаюся я ў Харытона.

– Людзі з суседніх Канчанаў, якія ганялі кароў, вазілі сена, бачылі на свае вочы, як у 1942 годзе з канцлагера вазілі трупы на калёсах, – Харытон паказвае на манітор камп'ютара. Затым удакладняе: – І былі дзве ямы. Вось і тут на здымку адна больш ярка відаць, бо свежая, але праглядаецца і другая, ранейшая. Там ляжыць каля дзвюх з паловай тысяч, а можа і тры тысячы чалавек.

У такіх лічбах Аляксандр Харытон упэўнены, бо ў Канчанах пасля вайны жыў доктар з ваеннапалонных, які абслугоўваў гэтыя баракі. І такія лічбы ён называў.

Яшчэ адзін, так званы працоўны лагер, знаходзіўся на тэрыторыі сучаснай вайсковай часці. Абрысы яго ўгадваюцца на фотаздымку.

Менавіта з яго тысячы жыхароў Красненскага гета паехалі ў свой апошні шлях на месца сваёй страшнай пагібелі ў таку аднаго з местачкоўцаў. Гэта месца сёння можна знайсці, калі звярнуць з галоўнай вуліцы Краснага ля помніка-танка ў супрацьлеглы ад Чысці бок.

– Іх везлі паўз нашу хату, – успамінае Аляксандр Уладзіміравіч. – Я гэту карцінку добра памятаю. Машына крытая, унутры белыя, распранутыя да споднягa, яўрэі, спераду матацыкл з аўтаматчыкам, такі ж ззаду...

Здымак, зроблены нямецкім авіяразведчыкам, дакладна паказвае яшчэ адно месца масавага пахавання яўрэяў у Красным, на старых закінутых яўрэйскіх могілках.

І толькі адну магілу з трох, пра якія мы гаварылі, сёння можна знайсці на памятным абеліску. На месцы спаленага току. Яго, па словах Харытона, паставілі стараннямі і на сродкі аднаго ўцалелага ў Галакосце красненца **Сямёна Грынгаўза**, які цяпер жыве ў Ізраілі. Грынгаўз са сваёй мамай выжылі ў віры вайны, а тут, у Красным, у гэтым попеле ляжаць яго сястра і брат.

Аляксандр Уладзіміравіч Харытон упэўнены, што ўсе месцы знішчэння мірных жыхароў і ваеннапалонных у Красным павінны быць увекавечаныя. На маё пытанне, хто гэта павінны зрабіць: мясцовыя ўлады, самі жыхары, пусціўшы шапку па коле, ён адказвае: "Гэта павінна быць зроблена".

– Для мяне, – кажа Харытон, – Дзень вызвалення Беларусі ў першую чаргу не свята, а горкія ўспаміны аб тым гарачым попеле сорак чацвертага.

Запісаў
Аляксандр МАНЦЭВІЧ.

## ВІНШАВАНКА

**Дарагая Воля Трубач з Маладзечна! Віншуем цябе з днём нараджэння!**

Няхай заўсёды будзе сонца на спіцах, дзьме спадарожны вецер, а колы ровара круцяцца хутчэй.

Мацней целам, маладзей душой, з упэўненасцю глядзі ў заўтрашні дзень.

**Сябры.**

## ПАДЗЯКА

Выказваем шчырую падзяку старшыні Маладзечанскага райвыканкама **А.Д. Яхнаўцу**, галоўнаму спецыялісту ПМОУРЦ **Ларысе Яўгенаўне Баран**, супрацоўнікам Рэспубліканскага цэнтра па аздараўленні і санаторна-курортным лячэнні насельніцтва, супрацоўнікам сацыяльнай дапамогі.

**Сям’я Попікавых.**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

- Аўдзі-90, 1988 г.в, 2,0. На ходу. 23 700 000 руб. Торг. Т. (8-025) 6353848.
- ВАЗ-2107, 1998 г.в, 1,5Б, 34 000 км, у арыгінале, 27 000 000 руб, торг .Т. (8-025) 6174060.
- Вольва-460, 10 000 000 руб. Т. (8-029) 5615614.
- ЗІЛ-130, дызель Д245, самазвал-сельгаснік, добры стан. Т. (8-029) 8777563.*
- Мерсэдэс С180Б, 1998 г.в, сіні металік, добры стан, 64 000 000 руб. Торг. Т. (8-029) 7578023, (8-029) 5618155.
- Опель-Рэкорд. Фара правая; ФВ В-3. Стойка пярэдняя. Т. МТС (8-033) 3465371.
- Пежо-405, 10 000 000 руб. Т. (8-029) 5615614.
- Рэно-Вэлсаціс, 2003 г.в, хамелеон,2,2 dci, 78 000 000 руб. Т. (8-029) 7046266.*
- Сітраэн-Ксара па запчастках, 1,8Б. Т. (8-029) 6653394.*
- Таёта-Авенсіс, 1999 г.в, Д, Вілейка. Т. (8-029) 5358791.
- ФВ-Вента, 1992 г.в, 1,8Б, ідэальны стан, 54 000 000 руб, торг. Т. (8-0290 1177995.
- ФВ Т2, дызель 1,6, легкавы. Т. (8-029) 3187448.*
- Форд-Мандэа, 2000 г.в, 1,8 тд, сіне-зялёны колер, універсал. Т. (8-029) 3900633.*
- Запчасткі б/к да Опеля-Астры, 1997 г.в, 1,6 мона, хэтчбэк. Т. (8-044) 4703638.
- З/часткі да ФВ-Пасат Б3. Т. Вэлком (8-044) 5177677.*
- **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*
- **АЎТАШКЛО. ПРОДАЖ, УСТАНОЎКА. ЯКАСНА, ПРАФЕСІЙНА. ГАРАНТЫЯ.** Наяўны, безнаяўны разлік. ЧСУП “АртАлексСэрвіс” УНП 690639270. Т. (8-029) 7766637, (8-044) 7766637. *
- Рухавік, каробку, тарпеду да Пікасо. Т. (8-033) 6653394.*

### КУПЛЮ

- **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 5016186.***
- Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус. Т. (8-029) 5524004.*
- Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус. Т. (8-029) 5524004.*
- Аўто, можна аварыйнае, не на ходу. Т. (8-029) 5677052.*
- Аўтамабіль у любым стане. Т. (8-033) 6062301.*
- Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6510099.*
- Аўто ў любым стане. Дорага! Т. МТС (8-033) 3049451.*
- Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 7918210.*

### ПАСЛУГІ

- Паслугі міні-экскаватара, усе віды земляных работ**.** ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*
- Арэнда экскаватара-пагрузчыка. Усе віды земляных работ. Каналізацыя. ІП Грычанаў Д.Г. УНП 691882365. Т. (8-029) 5045554.*
- Міні-экскаватар, міні-пагрузчык, колавы экскаватар, вібрапліта 500 кг, траншэекапальнік. ІП Дудзінскі П.З. УНП 600170076. Т. (8-029) 9666645.*
- Міні-экскаватар, траншэі пад ваду, газ, падмурак і г.д. ІП Кроер А.Л. УНП 691397772. Т. (8-029) 6926052.*
- Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*
- **МІНІ-ЭКСКАВАТАР**: усе віды земляных работ. ІП Жак А.А., УНП 691515498. Т. (8-044) 5522028.*





**Тэлефонныя коды** гарадоў рэгіёну:

| | | | |
|---|---|---|---|
| **Астравец** | -01591, | **Вілейка** | -01771, |
| **Ашмяны** | -01593, | **Маладзечна** | -0176, |
| **Валожын** | -01772, | **Мядзел** | -01797, |
| | | **Смаргонь** | -01592. |



## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

- 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне. Т. (8-029) 6372633.*
- 1-пакаёвая кватэра ў цэнтры Вілейкі, 3 паверх. Т. (8-033) 6639658.*
- 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы на Зеніце, 51,1/16,4/13,3/8,9. Першы паверх 5-павярховага дома. Т. (8-029) 2572419.
- 2-пакаёвая кватэра ў цагляным доме з лоджыяй у Маладзечне. Т. (8-029) 3553883.*
- 2-пакаёвая кватэра ў п. Чысць, вул. Русанава, 15-10, 3 паверх 3-павярховага дома, 2002 г, пл. 78 кв.м. Тэрмінова. Нядорага. Агенцтвам не турбаваць. Т. (8-029) 9815919.
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, без рамонту, 4 паверх. Т. (8-033) 6170104.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 6150904.*
- 4-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, вул. Трактарная, 1 паверх 5-павярховага цаглянага дома. Т. (8-025) 5384354.*
- Гараж у Смаргоні, ГБК-13, 4х6 м. Т. (8-025) 7975063.
- Дача ў СТ “Дачныя плёсы”. Т. (8-0176) 549903, Вэлком 9714018.
- Дача, 3,5 км ад в. Краснае. Нядорага. Т. (8-0176) 548035, Вэлком 9751135.*
- Дом з участкам у в. Насілава. Т (8-029) 2697533.*
- Дом недабудаваны ў Маладзечне, 130 кв. м, 0,15, часовая пабудова, сад. Магчымы абмен на кватэру. Т. (8-029) 5605781.
- Дом у аг. Любань Вілейскага р-на. Т. (8-033) 6026288.*
- Дом у в. Клыні Вілейскага р-на. Т. (8-01771) 46489, (8-01771) 20099.
- Дом у в. Папоўцы Вілейскага р-на. Т. (8-01771) 55349, маб. 858-75-18.*
- Дом у вёсцы Язжэнцы Мядзельскага р-на, 30 км ад Нарачы, побач рэкі Вузлянка і Нарачанка. Т. (8-029) 7765213.*
- Дом у Маладзечне з усімі выгодамі, гараж. Т. (8-029) 2608541.*
- Домік у вёсцы. Тэрмінова. Нядорага. Т. (8-029) 2667211.*
- Магазін 290 кв.м у Вілейцы, 220/380, вада, каналізацыя альбо здам у арэнду. Т. (8-029) 1969033.
- Палову дома ў Вілейцы ў р-не Незалежнасці, ёсць усе выгоды. Т. (8-033) 6368364.*
- Паўдома ў Вілейцы па вул. Стаханаўскай. Цана дагаворная. Т. (8-029) 2647536.

### ЗДАМ

- 1 пакой у 3-пакаёвай кватэры, 6 мікрараён у Маладзечне. Т. (8-029) 5719435.
- 3-пакаёвую кватэру ў цэнтры Маладзечна з мэбляй. Т. (8-029) 8500258.*
- У арэнду вытворча-складскія памяшканні:190 кв. м, 90 кв. м – р-н ЗПМ; 290 кв. м – Сасновы Бор. Асобная тэрыторыя. ТАА “Малметалкантракт” УНП 691398156. Т. (8-029) 1969033, (8-0176) 753513.

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

- Вяселлі. Юбілеі. Святочныя карпаратывы. Т. (8-029) 6188716.*
- Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-025) 5144071.*
- Музычнае суправаджэнне вяселляў, юбілеяў. Баян. Валынка. Адэкватная цана. ІП Ярук С.П. УНП 690696231. Т. (8-029) 7758341.*
- Музычнае суправаджэнне юбілеяў ,вяселляў, карпаратываў. Т. (8-0176) 546329, (8-029) 1444277, (8-029) 7684394.*

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

- АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж вясельных фільмаў, карпаратываў, мерапрыемстваў. Якасць HD. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

- **ГРУЗАПЕРАВОЗКІ** да 3 тон, горад, РБ, мэблевы фургон. ІП Радзівановіч А.А. УНП 691890548. Т. (8-029) 5064233.*
- Мерсэдэс - 412, 2,5 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

- Абітурыент! Матэматыка, фізіка: падтрыхтоўка да ЦТ. Заняткі з вучнямі сярэдняга звена. Рэпетытарства: вышэйшая матэматыка, чарчэнне, права. Т. (8-029) 5586664, (8-029) 6325077.*



## Прыём дробных аб’яў

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі 1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. **20083.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысць** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

* *Аб’явы, адзначаныя зорачкай, змешчаны ў Інтэрнэце на сайце rh.by*

# Сон у бары, замкі, паходны торт

## Дзеля іх школьнікі праехалі 150 кіламетраў на роварах

МАЛАДЗЕЧНА

**Ад 13 да 17 чэрвеня група вучняў Палачанскай сярэдняй школы пад кіраўніцтвам настаўніка геаграфіі Юрыя Мяцельскага была ў веласіпедным турыстычным паходзе.**

Наш маршрут ляжаў так: Палачаны – Залессе – Крэва – Гальшаны – Вішнева – Палачаны. У час падарожжа мы наведалі шматлікія аб'екты прыроднай і культурнай спадчыны, якія трапляліся на нашым маршруце, зрабілі шмат памятных фотаздымкаў.

У паход паехалі 10-класніца **Настасся Казакевіч**, 9-класнікі **Валеры Апяцёнак**, **Сямён Асіповіч**, **Андрэй Цярэшка**, 8-класніца **Паліна Фалей** і выпускніца 4 класа **Аляксандра Сафіновіч**.

У вёсцы Беніца агледзелі адзін са старэйшых храмаў – касцёл Святой Тройцы, які быў пабудаваны ў 1704 годзе ў стылі барока. На жаль, велічны храм прыходзіць у заняпад. З Беніцы наш шлях ляжаў у Залессе.

У Залескай сярэдняй школе наведалі краязнаўчы музей, дзе цікавую экскурсію для нас правёў настаўнік гісторыі **Аляксандр Міхалкоўскі.** Дырэктару школы **Канстанціну Грудзіну** падарылі буклет з выявамі славутасцяў палачанскага краю і запрасілі іх вучняў і педагогаў наведаць нашы мясціны. Першую ноч правялі ў сасновым бары на беразе невялікага вадасховішча.

На наступны дзень наведалі палацава-паркавы ансамбль Міхала Клеафаса Агінскага 19 стагоддзя, дзе нам правялі аглядную экскурсію па маляўнічым парку, наведалі музей і аранжарэю у палацы. У музеі адзін з пакояў прысвечаны нашаму земляку, асабістаму сакратару Агінскага – **Леанарду Ходзьку**, які нарадзіўся ў суседняй з Палачанамі вёсцы Аборак.

Затым наш шлях ляжаў на старажытнае мястэчка Крэва. Пераезд у 27 кіламетраў аказаўся даволі складаным, дарога ўвесь час ішла пад гару, таму што ў гэтых мясцінах знаходзіцца самы высокі пункт Ашмянскага ўзвышша – гара Мілідаўская вышынёй 320 метраў. У Крэве наведалі разваліны старажытнага замка, у якім у 1385 годзе былі падпісаны ўмовы аб'яднання ВКЛ і Польшчы.

У сераду мы рушылі на Гальшаны праз Баруны. У Барунах зрабілі экскурсію ў касцёл святога Пятра і Паўла, у падземеллі якога б'е святая крыніца. У Гальшанах наведалі касцёл святога Яна Хрысціцеля. Кляштар францысканцаў у сувязі з аварыйнай абстаноўкай не працуе, таму ўбачыць прывід Белай панны нам не давялося.

Затым паехалі на экскурсію да старажытнага Гальшанскага замка. З Гальшанаў наш шлях ляжаў на Вішнева. Па дарозе наведалі адно з самых вялікіх пахаванняў часоў Першай сусветнай вайны на Беларусі – нямецкія вайсковыя могілкі каля вёскі Дзясятнікі. У Вішневе наведалі сядзібна-паркавы комплекс графоў Храптовічаў "Адрованж". Ноч правялі ў лясным масіве на ўсход ад Вішнева. У чацвер раніцай прыехалі ў Сакаўшчыну, размясціліся на беразе вадасховішча, дзе правялі астатак дня і апошнюю паходную ноч.

Дзякуем памочніку кіраўніка паходу, настаўніцы музыкі **Наталлі Сафіновіч**, якая арганізоўвала для нас вольны час і дапамагала гатаваць паходныя стравы.

**Калі вы думаеце, што паходная страва – гэта каша, кансервы, юшка, без якой таксама не абышлося, вы памыляецеся. А як вам паходны торт, спечаны на вогнішчы з паходных прадуктаў і дароў лесу і ўпрыгожаны свечкамі?**

Ды і нагода для гэтага была: дачка Наталлі Мікалаеўны Аляксандра ў паходзе святкавала свой 10-гадовы юбілей.

У пятніцу, 17 чэрвеня, мы рушылі дамоў. За час паходу пераадолелі 150 кіламетраў. Хаця і адчувалася фізічная стомленасць, аднак уражанні, якія атрымалі за час падарожжа, не параўнаць ні з якімі цяжкасцямі. Мы глыбей пазналі свой родны край з яго маляўнічай прыродай, багатай гісторыяй і культурай, вучыліся дапамагаць адзін аднаму.

**Паліна ФАЛЕЙ,**
**вучаніца 8 класа Палачанскай сярэдняй школы, удзельніца паходу.**

# Чаму дарослым часам так цяжка сказаць "не"



Фота http://www.universal.org.ar/

**Баючыся сказаць "не", вы ствараеце ў сабе комплексы, якія ў рэчаіснасці не маюць пад сабой ніякай падставы.**

**Кожны чалавек шмат разоў у жыцці апынаўся ў сітуацыі, калі цяжка было сказаць "не". Праблемы пачынаюцца, калі вы пачынаеце ставіць чужыя жаданні вышэй за ўласныя.**

Справа не ў тым, што часта мы адмаўляем людзям альбо пагаджаемся на іх прапановы і просьбы. Важна, як мы сябе пры гэтым адчуваем – героем або ахвярай.

### Пагаджацца выгадна

Вельмі часта казаць "так" выгадна. Аказваючы людзям паслугі ў шкоду сваім інтарэсам, мы толькі на першы погляд пакутуем. З іншага боку, такім чынам мы атрымліваем пацвярджэнне ўласнай значнасці. Прыемна адчуваць сябе добрым чалавекам, незаменным супрацоўнікам або сапраўдным сябрам.

Для тых, хто не ўпэўнены ва ўласнай каштоўнасці, вельмі важна пастаянна атрымліваць падобныя пацвярджэнні. Імкненне быць зручным для ўсіх – не пакрыўдзіць, парадаваць, выратаваць – часта ўзнікае праз страх быць адкінутым. Адмовіцца ад асабістых інтарэсаў для такіх людзей прасцей, чым пазбавіць сябе зносін, хай і сумнеўнай якасці.

### Выкананне чужых жаданняў дазваляе адчуваць сябе добрым

Складанасці са словам "не" звычайна ўзнікаюць у чалавека, які ў дзяцінстве быў адкінуты. Хутчэй за ўсё, бацькі былі незадаволеныя сваім дзіцем, расказвалі, якім ён павінны быць, каб мама і тата яго палюбілі. Такія дзеці баяцца пакарання, крытыкі.

Пасталеўшы, працягваюць уважліва адсочваць эмоцыі навакольных, па іх вызначаць, "добры" ён ці "дрэнны". Такі чалавек можа стаць настолькі залежным, што будзе здольны нервавацца з-за непрыветлівага тону ў гутарцы з малазнаёмым чалавекам. Занядбанае дзіця амаль не ведае, чаго хоча ад жыцця, але ведае, што выкананне чужых жаданняў дазваляе яму адчуць сябе добрым.

Адмаўляючыся ад уласных інтарэсаў, падпарадкоўваючыся і ламаючы сябе, мы можам адчуваць сябе падманутымі, выкарыстанымі. Пачынаем злавацца на таго, з кім пагаджаемся. Негатыўныя эмоцыі можна доўга хаваць, але затым яны абавязкова праявяцца прамым або ўскосным чынам.

### Адмовіцца – не значыць быць баязліўцам

Магчыма, хто-небудзь задумваўся, чаму дзеці могуць лёгка адмаўляцца, не дзяліцца цацкамі, не гуляць у гульню, якая не падабаецца. Уся справа ў дзіцячай непасрэднасці.

Непасрэднасць – гэта шчырае выказванне сваіх пачуццяў і эмоцый, здольнасць дзейнічаць без роздумаў і сумневаў, па ўнутраным захапленні. Часам гэтай якасці вельмі не хапае дарослым.

Чалавек, які прамаўляе простыя словы адмовы, не значыць, што ён дрэнны, баязлівы. Цвёрдае "не" ўсяго толькі азначае, што чалавек такі, як ёсць, і не абавязаны адпавядаць чужым уяўленням аб ідэале.

Калі мы гаворым "не" ці "так", тым самым мы абазначаем свае жаданні і ўнутраныя межы. Калі ўвесь час без асабістага на тое жадання адказваць "так", то ўнутраныя межы сціраюцца. Гэта і перашкаджае зразумець свае патрэбы.

Калі заўсёды мы кажам "не", то ўнутраныя межы занадта жорсткія. Звыклае адмаўленне перашкаджае атрымліваць новую інфармацыю са знешняга свету. Катэгарычнае "не" і звыклае "так" – крайнасці. Таму выбірайце залатую сярэдзіну.

Толькі ўсвядоміўшы выгады пастаяннай згоды, вы зразумееце, чаму так цяжка сказаць "не".

**Баючыся сказаць "не", вы ствараеце ў сабе комплексы, якія ў рэчаіснасці не маюць пад сабой ніякай падставы.** **Усе прычыны, якія перашкаджаюць сказаць запаветнае "не", знаходзяцца толькі ў думках.**

## Некалькі спосабаў сказаць "не"

**1. Назавіце прычыны адмовы.**

Напрыклад: "Я з задавальненнем бы, але....". Дастаткова проста растлумачыць людзям, таму што многія з іх проста не бачаць падставы для адмовы.

**2. Падсаладзіце сказанае.**

Напрыклад: "Выдатная ідэя, але..." Часам баішся сказаць "не", каб нікога не пакрыўдзіць. Таму можна сказаць так, каб чалавек гэта прыняў за камплімент. Галоўнае, каб ён прагучаў шчыра.

**3. Ухіліцеся ад адказу.**

Напрыклад: "Паглядзім..." Калі адчуваеце націск з боку, ведаеце, што адгаворкі не дапамогуць, проста скажыце: "Я падумаю, я паспрабую".

**4. Заручыцеся падтрымкай.**

Напрыклад: "Мяне зможаш зразумець толькі ты...". Многія людзі хваравіта рэагуюць, калі ім кажуць "не", таму ім цяжка ўвайсці ў ваша становішча. Пры размове з такім чалавекам час ад часу кажыце пра тое, як вы загружаныя справамі, што ў вас няма часу.

**5. Прапануйце варыянт, які ўсіх задаволіць.**

**6. Перакладайце адказнасць на іншых.**

Напрыклад: "Ну, калі ты так лічыш...". Хай яны думаюць, што іншага выйсця ў вас няма, і вы пагаджаецеся з іх меркаваннем.

**7. Ужывайце чужыя прыёмы.**

Напрыклад: "А як ты лічыш..." Варыянты могуць быць розныя: "Ты ж не пакрыўдзішся, калі...".



**Таццяна ЖДАНАВА,** псіхолаг

# Праведнік свету Мікалай Кісялёў

*Працяг. Пачатак у №№23, 24, 25, 26.*

**Захавалася шмат эмацыйных і кранальных успамінаў выратаваных Кісялёвым людзей.**



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

Сын паплечніка Кісялёва Іосіфа Бермана Іван Берман гутарыць з журналісткай "Рэгіянальнай газеты" Зояй Хруцкай у музеі Ільянскай сярэдняй школы, дзе ёсць і куток, прысвечаны Мікалаю Кісялёву. У доме Берманаў Мікалай Кісялёў пражыў частку свайго жыцця ў падполлі. Ілья, студзень 2016 года.

Напрыклад, у групе бежанцаў быў інвалід **Якаў Рубін**: замест нагі ў яго была дзеравяшка.

Напружваючыся з рэшты сіл, ён усяляк стараўся не адставаць ад асноўнай масы людзей. Кісялёў звярнуў увагу на ўстойлівага, нягледзячы на калецтва, чалавека і падчас чарговага прывалу падышоў да яго. Пасля непрацяглай гутаркі камандзір прапанаваў інваліду свайго каня. Якаў спачатку не пагаджаўся прыняць гэту высакародную прапанову. Ён гатовы быў і далей нароўні з усімі пераносіць усе нягоды паходу, але Кісялёў сказаў, што гэта загад. Учынак камандзіра атрымаў аднадушнае адабрэнне ўсіх бежанцаў. Людзі яшчэ не раз пераконваліся ў чуласці Мікалая Якаўлевіча.

**Асабліва кранальнай была гісторыя маленькай двухгадовай дзяўчынкі Берты Крэмер.**

Уся яе віна была ў тым, што падчас пераходу яна часта плакала. Бацькі не ў стане былі яе супакоіць. А людзі баяліся, што плач дзіцяці змогуць пачуць немцы ці хто-небудзь з шматлікіх паліцэйскіх патрулёў.

Крэмерам сказалі: "Ці сыходзьце куды-небудзь з гэтай дзяўчынкай, ці пазбаўцеся ад яе". Некаторыя нават прапаноўвалі... ўтапіць малую: якраз у той час бежанцы праходзілі каля возера. Але ні бацька, ні маці не змаглі гэтага зрабіць. "Іх віл лебн (Я хачу жыць)", – выціраючы слёзы, сказала Берта. І гэтыя словы мог бы сказаць кожны з групы.

У той момант да бацькоў падышоў Кісялёў і пацікавіўся: "Што адбываецца?" Хтосьці сказаў яму, што бацька не хоча тапіць дачку, што плача, і выдадзе гэтым усю групу. Усе напружана чакалі рашэння камандзіра...

Кісялёў накіраваўся да бацькоў Берты і ўзяў малую на рукі. Яна адразу змоўкла. Мікалай Якаўлевіч спрытна падхапіў дзіця і аднёс яго да партызанкі **Ані Сіроткавай**, якая выконвала абавязкі санітаркі. Яна, дарэчы, увесь час суправаджала Кісялёва...

За час зыходу немцы два разы атачалі групу ў лясах, але Кісялёў абодва разы без страт паспяхова выводзіў яе. Да станцыі Асташкава ўцекачы прайшлі пешшу каля сямі соцень кіламетраў.

### У савецкім тыле

Здавалася, што ўсе цяжкасці засталіся ззаду. 25 верасня 1942 года група колькасцю 218 чалавек выйшла на неакупаваную тэрыторыю ў раён Пудзічаў, дзе іх добра сустрэлі прадстаўнікі Мінскай групы НКВД. Там разам з бежанцамі Мікалай Кісялёў здаў у органы НКВД і дакументы, якія былі.

Людзей размясцілі ў трох населеных пунктах. Праз два дні, у 10:00, камандзір партызанскага атрада "Перамога" павінны быў атрымаць неабходныя дакументы і працягнуць рух па названым маршруце. Але нечакана ў 5:00 у вёску Дразды ўварваліся пераапранутыя немцы і паліцаі. Яны занялі савецкія дзоты і фабрыку, а людзям цудам удалося выслізнуць ад поўнага знішчэння. Толькі 18 бежанцаў, размешчаных у адным з населеных пунктаў, трапілі ў акружэнне. Разам з імі засталіся начальнік штаба **Рыгор Крылоў**, стары партызан, двойчы ардэнаносец, і начальнік разведкі **Тучын**. А частка людзей проста разбеглася, іх не змаглі знайсці.

Сабраўшы пакінутых людзей, група рушыла далей. На руках у Кісялёва застаўся толькі пропуск, выдадзены Віцебскім абкамам партыі. Выйшаўшы 30 верасня да прызначанага месца, атрад не сустрэў патрэбных работнікаў і рушыў далей – у сяло Тарапец. Але на падыходзе да гэтага населенага пункта бежанцаў затрымалі на заставе, а з-за таго, што ў іх не было неабходных дакументаў, атрад адправілі ў Тарапец пад канвоем.

Адтуль кісялёўцаў перадалі на перасыльны пункт у вёску Тальялава. Затым іх накіравалі ў горад Суздаль Іванаўскай вобласці – у спецыяльны лагер НКВД. Там усе прайшлі праверку. Прычына – знаходжанне ў тыле ворага.

**У Суздалі адбылася падзея, якой партызаны менш за ўсё чакалі. Нягледзячы на пратэсты камандзіра Кісялёва, яго атрад быў расфармаваны. У групе бежанцаў былі тры дзесяткі няўзброеных і 15 узброеных байцоў. Частку людзей накіравалі ў 4-ю ўдарную армію, а частку ў 159-ы запасны полк.**

І толькі тады, калі Мікалай Якаўлевіч дамогся, каб яго прынялі **Калінін** і **Крупеня**, яму было даручана суправаджаць выведзеных з акупаванай тэрыторыі людзей у Башкірскай АССР. Што ён і выканаў. Аднак падапечныя Кісялёва не пажадалі застацца ў межах Башкірыі з прычыны суровых кліматычных умоў. Уцекачы ўгаварылі Кісялёва паставіць пытанне перад кіраўніцтвам рэспублікі аб перакідцы іх у цёплыя краі. Ён атрымаў згоду на перапраўку бежанцаў у горад Чымкент.

Адправіўшы групу з новым камандзірам **Ліўшыцам**, Мікалай разам са сваім намеснікам **Гарадзішчавым** і разведчыцай Сіроткавай 16 снежня 1942 года па камандзіровачным пасведчанні Башкірскага абласнога камітэта камуністычнай партыі з'ехалі ў Маскву ў распараджэнне воінскай часці 00133 да атрымання далейшых указанняў.

Камандаванне партызанскіх атрадаў "Мсцівец" і іншых пасля выканання задачы па вывадзе мірнага насельніцтва за лінію фронту прадставілі найбольш адзначаных партызан да дзяржаўных узнагарод. Некалькі разоў камандзір атрада "Перамога" і яго камісар **Мікалай Рогаў** звярталіся ў Беларускі штаб партызанскага руху, але ніякіх адказаў не атрымалі.

19 студзеня 1943 года Мікалай Якаўлевіч падаў рапарт **Панцеляймону Панамарэнку**, сакратару ЦК КП (б) Беларусі, у якім прадставіў спіс лепшых людзей для ўзнагароджання. У дакуменце былі таксама пералічаны пяць падначаленых Кісялёва, якія разам з ім збіралі па лясах яўрэяў і стварылі партызанскі атрад "Перамога". Разам з камандзірам яны выводзілі бежанцаў у савецкі тыл. Гэта былі **Элік Майзель**, Мікалай Рогаў, АНСА **Абрамовіч Меерсон**, **Віктар Гарадзішчаў** і **Васіль Баннікаў**. Паказаў Мікалай Кісялёў кароткія дадзеныя і пра сябе.

Але ні ордэнаў, ні медалёў нікому з іх так і не далі. Загадам па Беларускім штабе партызанскага руху групе партызан, якія выканалі заданне камандавання па вывадзе з нямецкага тылу яўрэйскіх сем'яў, гэта значыць 218 чалавек, былі выдадзены грашовыя прэміі. Да таго ж быў зменены спіс узнагароджаных! З яго былі выкрасленыя прадстаўнікі яўрэйскай нацыянальнасці.

**Аляксандр ПЛАВІНСКІ.**

**Заканчэнне будзе.**

● КАЛЯНДАР

**1 ЛІПЕНЯ**

**75 гадоў** з часу выхаду (1941) дырэктывы №2 ЦК КП(б)Б "Аб разгортванні партызанскай вайны ў тыле ворага".

**1941 год.** Пасля наступлення немцаў на ваенным фронце прадстаўнікі савецкай улады перад сваім адыходам хацелі ўзарваць Будслаўскі касцёл, але вернікі абаранялі святыню акружыўшы яе, і ўратавалі.

**3 ЛІПЕНЯ**

**Дзень Незалежнасці Рэспублікі Беларусь** (Дзень Рэспублікі). **Дзень вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.**

**5 ЛІПЕНЯ**

**90 гадоў** з дня нараджэння Міхаіла Лазарука (1926 – 2001), літаратуразнаўца, педагога, акадэміка Акадэміі педагагічных навук СССР. Акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук РБ (1995). У 1954 – 1978 гадах працаваў у Мінскім педагагічным інстытуце імя Горкага: старшым выкладчыкам, дацэнтам, прафесарам, дэканам філалагічнага факультэта, прарэктарам па вучэбнай рабоце. У 1978 – 1990 гады – дырэктар Навукова-даследчага інстытута педагогікі. Паўтара года выкладаў у Варшаўскім універсітэце. Пасля – загадчык лабараторыі літаратурнай адукацыі Нацыянальнага інстытута адукацыі Міністэрства адукацыі Беларусі.

**75 гадоў** з часу прыняцця (1941) Саветам Народных Камісараў Беларусі і ЦК КП(б)Б дырэктывы аб арганізацыі атрадаў народнага апалчэння.

**2001 год.** У Мінску пачаўся трэці з'езд беларусаў свету (доўжыўся 5-6 ліпеня).

**7 ЛІПЕНЯ**

**Купалле.**

**220 гадоў** з дня нараджэння Яна Антонія Чачота (1796 – 1847), беларускага і польскага паэта, фалькларыста. Паэт сабраў каля тысячы аўтэнтычных беларускіх народных песень і выдаў іх у шасці зборніках "Сялянскіх песень" у перакладзе на польскую мову, восьмую частку з якіх апублікаваў у беларускім арыгінале. Вершы актыўна ставіліся на музыку яго сучаснікам Станіславам Манюшкам: усяго на арыгінальныя тэксты і пераклады вусна-паэтычных твораў кампазітар напісаў 22 песні, болей, чым на словы любога іншага аўтара. Моцна сябраваў са сваім аднакласнікам Адамам Міцкевічам.

***

**1886** год. 130 гадоў таму была ўзведзеная бальніца-аптэка ў Маладзечне.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

● НАВІНЫ

## Фестываль "Адна зямля" – 7 гадзін музыкі, 44 удзельнікі, 88 песень

АСТРАВЕЦ

**Песенны марафон распачнецца ў Астраўцы 2 ліпеня.**

Пачатак конкурснай праграмы фестывалю "Адна зямля" ў 12 гадзін.

У першай палове дня выступяць артысты, якім ад 8 да 17 гадоў. У перапынку – канцэрт эстраднай песні і танца ўстаноў адукацыі Астравецкага раёна. Затым выступяць артысты ад 18 да 31 года. Падвядзенне вынікаў і ўзнагароджанне пераможцаў адбудуцца ў 19 гадзін.

Сёлета раёны прадстаўляць наступныя выканаўцы:

**Астравецкі раён: Раман Віткевіч**, 8 гадоў, **Ксенія Кімса**, 17 гадоў, **Сяргей Савіцкі**, 20 гадоў, **Алег Уласік**, 23 гады; **Кацярына Кулевіч**, 25 гадоў, **Злата Мінкілевіч**, 29 гадоў, **Юры Інаровіч**, 27 гадоў.

**Ашмянскі раён: Ульяна Лугін**, 9 гадоў, **Арцём Скароль**, 10 гадоў, **Ангеліна Захарэўская**, 17 гадоў, **Крысціна Ягорава**, 17 гадоў, **Канстанцін Яраш**, 23 гады, **Любоў Шчарбакова**, 31 год.

**Валожынскі раён: Беніямін Грыгаран**, 11 гадоў, **Мілана Соніч**, 10 гадоў, **Марыя Шумчык**, 15 гадоў, **Аляксандра Шаюк**, 17 гадоў, **Алеся Сяргейчык**, 21 год, **Аксана Квач**, 22 гады, **Кацярына Есмантовіч**, 27 гадоў.

**Вілейскі раён: Вікторыя Саванец**, 10 гадоў, **Ірына Храмцова**, 15 гадоў, **Марыя Гатаўліна**, 16 гадоў, **Ангеліна Талстыка**, 18 гадоў, **Вераніка Пташнік**, 25 гадоў.

**Маладзечанскі раён: Дар'я Місіюк**, 9 гадоў, **Мікалай Гарбачэўскі**, 12 гадоў, **Кацярына Паўловіч**, 15 гадоў, **Лізавета Хадасевіч**, 16 гадоў, **Вікторыя Крук**, 21 год, **Лада Лінкевіч**, 18 гадоў, **Павел Бандарэнка (Данілаў)**, 26 гадоў, **Вікторыя Дайноўская**, 24 гады.

**Мядзельскі раён: Сяргей Кіндзякоў**, 9 гадоў, **Іна Гарошка**, 17 гадоў, **Вольга Буянава**, 21 год, **Вольга Гіршык**, 24 гады.

**Смаргонскі раён: Паліна Сярмяжка**, 11 гадоў, **Віялета Кузьміна**, 9 гадоў, **Аляксандра Рынкевіч**, 14 гадоў, **Вольга Касцюкевіч**, 17 гадоў, **Ірына Кулагіна**, 23 гады, **Кацярына Пратасевіч**, 24 гады, **Яна Беніцэвіч**, 26 гадоў.

**Наталля ТУР.**

# Жаніхі, не бойцеся падыходзіць да нявесты падчас першага танца

## Парады, якія зробяць рэгістрацыю ў ЗАГСе нястрашнай

МАЛАДЗЕЧНА

**Рыхтуючыся да вяселля, маладыя стараюцца прадумаць усё да дробязяў. Аднак, часам, хваляванне ў адзін з самых важных дзён у жыцці можа прывесці да таго, што маладыя забываюцца на некаторыя рэчы.**



Фота Ірыны СІНІЦКАЙ.

Падчас першага танца ў гасцей складваецца першае ўражанне пра вас як пра пару.

Начальнік аддзела ЗАГС Маладзечанскага райвыканкама **Ала Івашкевіч** падчас заняткаў "Школы маладой сям'і" расказала, што варта зрабіць, каб працэдура ў ЗАГСе прайшла без лішняга хвалявання і слёз.

### "Заходзьце, я туды не спяшаюся"

1. Пашпарты, квіткі аб аплаце, напісаныя імёны і прозвішчы сведак прынясіце напярэдадні вяселля. Неабавязкова ісці жаніху і нявесце, дакументы могуць прынесці і сваякі.

2. Калі ў вас урачыстая рэгістрацыя, ад любога з абраду вы можаце адмовіцца, ці, наадварот, уключыць у сцэнар. Але пра гэта варта сказаць спецыялістам загадзя.

**Рэгістрацыя доўжыцца каля 15 хвілін.**

3. Прыедзьце у ЗАГС за 15-20 хвілін да прызначанага часу. Гэта дапаможа спакойна зайсці ў залу, падпісаць неабходныя дакументы перад рэгістрацыяй, аддаць пярсцёнкі, атрымаць пашпарты. Калі вы спазніліся, прыйдзецца чакаць, пакуль зарэгіструюць пары, якія прыйшлі своечасова.

– Сітуацыя са спазненнямі не адзінкавая ў нашай практыцы, – тлумачыць спецыяліст. – Таму мы заўсёды папярэджваем – прыедзьце раней. Аднойчы пара, якая спазнілася, чакала, пакуль вызваліцца час. Нявеста пачала плакаць – і макіяж, і настрой былі сапсаваныя. Невядома, колькі б яны стаялі, каб жаніх адной з пар не запытаўся, што здарылася, і не саступіў сваё месца. "Я туды не вельмі спяшаюся!" – пажартаваў жаніх, каб разрадзіць сітуацыю.

### Каб пярсцёнкі не сталі квадратнымі, знімайце з іх цэннік

4. Жаніхі, пакладзіце пярсцёнкі ў кішэню напярэдадні вяселля, праверце, каб былі не прашытыя кішэні.

– Некалі маладыя прынеслі пярсцёнкі, па якіх было бачна, што іх ужо насілі, – расказвае Ала Івашкевіч. – Адразу падумала, што яны перайшлі да маладых у спадчыну. Але не, калі пара пачала іх надзяваць, аказалася, што нявесце пярсцёнак падыходзіць, жаніху – толькі на кончык пальца. Проста малады забыўся пярсцёнкі. Іх узялі ў бацькоў, каб захаваць традыцыю.

5. Знімайце з пярсцёнкаў этыкеткі з цаной.

– Мы ведаем, наколькі маладыя стараюцца, выбіраючы пярсцёнкі, – узгадвае частыя памылкі спецыяліст. – Але не трэба паказваць іх цану. А вось з нітачкамі, на якіх трымаецца цэннік, бываюць праблемы. Аднойчы я не магла разарваць яе падчас цырымоніі, папрасіла зрабіць гэта аднаго з гасцей. Ён і разарваў – толькі пярсцёнак стаў квадратным.

6. Пакладзіце пярсцёнкі ў каробачку. Яе вам аддадуць, а пярсцёнкі пакладуць у вазу са збожжам, з якой вы і будзеце іх браць.

– Зразумела, што некаторыя пары хочуць вылучыцца, быць адметнымі, – разважае спецыяліст. – Аднак перш чым рабіць, падумайце, ці не ўскладніць гэта працэдуру. Адна нявеста паклала пярсцёнкі на падушачку, а каб не зваліліся, зашпіліла шпількамі – жаніх хвіліны тры змагаўся з ёй, каб дастаць.

7. Вазьміце з сабой ручнік.

Падчас цырымоніі ім будуць абвязваць рукі маладым, вузел пажадана не развязваць, пакуль ваша дзіця не збярэцца пабрацца шлюбам. Ручнік можна перадаваць у спадчыну.

– У некаторых мясцінах краіны лічылася, што ручнік белага колеру – жалобны, – дзеліцца досведам спецыяліст. – Лепш вазьміце вышыты, напрыклад, чырвоную вышыўку нашы продкі лічылі абярэгам.

8. Жаніхі, не бойцеся падыходзіць да нявесты, калі танцуеце першы танец, нават, калі сукенка вельмі пышная. У гасцей у гэты час складваецца першае ўражанне пра вас як пра пару – наколькі вы гарманічныя разам.

### Букет – своеасаблівы абярэг нявесты

10. Нявесты, не аддавайце букеты дружкам падчас цырымоніі.

– Гэта своеасаблівы абярэг ад благіх вачэй, зайздрасці, – расказвае Ала Івашкевіч. – Тым больш цяпер букеты робяць невялічкія, іх проста трымаць у руках. Калі я выходзіла замуж, у мяне быў вялізны букет з гладыёлусаў і нічога – усё вяселле трымала.

Тым больш жаніх стараўся выбраць букет, які адпавядае вашаму характару, вобразу, укладаў у яго часцінку сваёй душы. Калі вы аддалі некаму букет, гэта можа пакрыўдзіць жаніха.

Нявесты, не бойцеся за свае прычоскі падчас вяселля, цырульнікі ў гэты дзень заўсёды стараюцца зрабіць вас надзвычай прыгожымі. Паводзьце сябе натуральна.

– Ведаю, што адной з нявест па трэці дзень пасля вяселля прычоску распляталі пласкагубцамі, – расказвае спецыяліст. – Справа ў тым, што заколкі счапіліся паміж сабой, па-іншаму не атрымлівалася дастаць іх.

11. Падбірайце сукенку пад свой рост, у іншым выпадку вы будзеце чапляцца за яе, яна будзе блытацца ў нагах. Гэта не толькі не прыгожа, але і небяспечна.

12. Прасачыце за тым, каб спецыялісты, якія будуць задзейнічаны на вяселлі (відэаздымшчыкі, фатографы), былі прыстойна апранутыя.

– Калі прыйшлі на ўрачыстасць, няхай для іх гэта і праца, выглядаць павінны адпаведна, – раіць Ала Івашкевіч. – Людзі сталага ўзросту не заўсёды разумеюць, калі, напрыклад, фатограф апрануты ў кароткія шорты і майку, як на пляжы.

**Галіна СІНІЦА.**

### Чаго нельга рабіць у маладзечанскім ЗАГСе

1. У ЗАГСе павялічылася колькасць неўрачыстых вяселляў – цырымоніі праводзяцца ў банкетнай зале. Таму няма месца, каб зрабіць невялічкі банкет для маладых і гасцей з шампанскім і цукеркамі.

2. Непажадана пасыпаць маладых пялёсткамі руж і жытам. ЗАГС знаходзіцца каля жылых дамоў, таму ветрам пялёсткі руж і жыта могуць разносіцца каля пад'ездаў, а гэта лішнія клопаты жыхарам, якія павінны будуць прыбраць іх.

3. Сігналіць каля ЗАГСа – гэта перашкаджае іншым парам, якія бяруць шлюб.

# Мастакі рэгіёна хочуць стварыць свой клуб

**Пра гэта гавораць мастакі Маладзечна, Вілейкі, Смаргоні пасля публікацыі ў "Рэгіянальнай газеце" допісу мастака Эдуарда Мацюшонка ў адным з майскіх нумароў.**



Фота Міхася КУЛЯША.

На выставе Эдуарда Мацюшонка ў Вілейцы.

Якая канцэпцыя такога яднання можа быць?

Маладзечна з'яўляецца культурнай сталіцай краіны 2016 года. У рамках гэтай падзеі арганізоўваецца выстава мастакоў рэгіёна. Такія праекты маюць велізарнае значэнне для ўсталявання творчых сувязяў маладзечанскіх аўтараў і мастакоў з рэгіёнаў не толькі ў азнаямленчым плане, але і для развіцця адзінай культурнай прасторы, што вельмі важна для краіны ў цэлым.

Маладзечанскія майстры часта і з задавальненнем едуць у раней нязведаныя мястэчкі беларускай глыбінкі, дзе чэрпаюць натхненне ў вывах прыроды і архітэктуры, гэтак жа шчыра шукаюць творчых кантактаў са сваімі калегамі вілейскія, смаргонскія, валожынскія і іншыя мастакі.

**Канцэпцыя выставы заключаецца ў тым, каб паказаць самабытнасць і непаўторнасць рэгіянальнага мастацтва, пераемнасць яго пакаленняў.**

Выстава рэгіянальнага мастацкага праекта "Агульная прастора" ў рамках традыцыйнай акцыі "Культурная сталіца года" мае на ўвазе далейшую арганізацыю творча-асветніцкага Клуба рэгіянальных мастакоў, што будзе спрыяць інтэграцыі прасторы сучаснага беларускага мастацтва, актывізаваць культурнае рэгіянальнае жыццё.

Маладзечна – адзін з тых гарадоў Мінскай вобласці, які мае магчымасць атрымаць статус не толькі аднаго з культурных, але і перспектыўна-трывалых мастацкіх цэнтраў Беларусі. Тым больш, што ў перыяд 80-90-х гадоў дваццатага стагоддзя Маладзечна вылучалася на фоне многіх іншых раённых гарадоў краіны актыўнай мастацкай дзейнасцю.

Студыя, арганізаваная адной з найстарэйшых мастакоў горада **Ядвігай Раздзялоўскай**, у 1979 годзе атрымала званне "народная", дала гораду і рэгіёну пляяду таленавітых майстроў, служыла стартавай пляцоўкай для далейшай прафесійнай адукацыі, з'яўлялася цэнтрам мастацкага жыцця. Раздзялоўская адна з тых, чые імёны ўславілі Маладзечна. Клуб з гонарам будзе насіць яе імя.

**Пад патранажам "Рэгіянальнай газеты" клуб можа паслужыць камертонам для ўсіх рэгіянальных майстроў, цэнтрам для самавыяўлення маладых аўтараў, месцам засяроджвання мастацкага жыцця горада.**

Мастакі маюць намер на грамадскіх добраахвотных пачатках дапамагаць культурнаму выхаванню жыхароў Маладзечаншчыны і спадзяюцца на грамадскую і дзяржаўную падтрымку ў наладжванні сваіх творча-асветніцкіх і культурна-выхаваўчых ініцыятыў.

Першым мерапрыемствам на шляху ажыццяўлення гэтай праграмы будзе Першая рэгіянальная выстава, якая здолее аб'яднаць усіх патэнцыйных членаў Клуба рэгіянальных мастакоў. Выбар твораў для выставы будзе накіраваны на дэманстрацыю актуальных па тэматыцы, арыгінальных па напаўненні і форме наватарскіх мастацкіх твораў.

У экспазіцыі будуць адлюстраваныя як традыцыйныя, так і новыя тэндэнцыі сучаснага мастацтва. Важную ролю адыграе выкарыстанне інтэрактыўных формаў працы з гледачамі з удзелам сучасных аўдыявізуальных і інфармацыйных тэхналогій. У экспазіцыі выставы будуць створаныя інтэрактыўныя зоны для наведнікаў рознага ўзросту, сацыяльных катэгорый і інтарэсаў.

Запланаванае шырокае асвятленне выставы "Рэгіянальнай газетай", на інтэрнэт-сайтах, у часопісах, таксама ў СМІ Маладзечна і іншых гарадоў рэгіёна, на ТБ і радыё.

Падчас выставы запланаваныя дні сустрэч з мастакамі і іх майстар-клас па жывапісе і графіцы, абмеркаванні выставы з гледачамі і выступленні маладзечанскіх і сталічных мастацтвазнаўцаў, канцэрты спевакоў і музыкантаў.

У гэтым новым фармаце правядзенне выставы будзе значнай падзеяй, якая стане пачаткам больш актыўнай ролі мастака ў жыцці рэгіёна. І самі мастакі, і нашы суайчыннікі ў рэгіёнах да гэтага ўжо аб'ектыўна падрыхтаваныя. Неабходна зрабіць першы наватарскі творчы крок.

**Алена СКАБЛО, мастацтвазнаўца, Маладзечна.**

### Мэта праекта:

- стымуляванне развіцця і папулярызацыі сучаснага мастацкага працэсу ў рэгіёне;
- умацаванне міжрэгіянальных культурных сувязяў.

#### Асноўныя пытанні:

- паказ важнасці такой з'явы ў чалавечым жыцці, як пераемнасць традыцый;
- прэзентацыя дасягненняў традыцыйнага і сучаснага па формах мастацтва;
- пашырэнне рэгіянальнага выставачнага кантэксту коштам прыцягнення твораў сучаснага мастацтва;
- актывізацыя творчага камунікавання рэгіянальных мастакоў і мастацтвазнаўцаў;
- далучэнне гледачоў да мастацтва і прыцягненне іх да наведвання экспазіцый.

Для правядзення выставы патрабуецца мастацтвазнаўца-куратар, які арганізоўвае экспазіцыю выставы; наладжвае збор інфармацыі для падрыхтоўкі друкаванага каталога; адказвае за рэкламную кампанію. Мастацкае кіраўніцтва праектам ажыццяўляе куратар, які фарміруе мастацкую канцэпцыю і мастацкую планіроўку выставы; вызначае агульны экспазіцыйны развязак; узначальвае працоўную групу і з'яўляецца членам камісіі па адборы твораў.

## Без майстра музыка больш не гучыць...

МАЛАДЗЕЧНА

**Уладзіміра Ключнікава не стала год назад.**

І таму, хто сцвярджае, што незаменных людзей няма, проста не пашчасціла працаваць побач з выдатным майстрам, выкладчыкам, музыкантам.

Уладзімір Ключнікаў усё жыццё прысвяціў музычнаму вучылішчу. Працаваў не толькі выкладчыкам, але і рэстаўратарам музычных інструментаў. Успамінаў, як не раз даводзілася ездзіць у вёску, прасіць у мясцовых жыхароў "выдзіраць" з хваста белых коней волас для смычкоў.

Свае інструменты Уладзіміру давяралі і канцэртмайстар аркестра Юрыя Башмета, і заслужаныя артысты.

На "Славянскім базары" Уладзімір таксама пакінуў свой след, калі вырабіў для фестывалю копію інструмента віёлы да гамба майстра 18 стагоддзя Ніколы Бертрана.

Віёла да гамба па сваім гучанні нагадвае сучасную віяланчэль. Але знешне – гэты інструмент 100% арыстакрат – вытанчаная драўляная фігура, увянчаная разьбяной галоўкай на тонкай шыі.

Дзівіўся тады Уладзімір Рыгоравіч, што такі інструмент майстры ў 18 стагоддзі стваралі без усялякіх чарцяжоў і камп'ютараў.

Але ці стварыў бы Уладзімір такі цудоўны інструмент, ці атрымалася б у яго чуць новыя галасы і вучыць іх музыцы, каб не крочыла з ім па жыцці яго спадарожніца, паплечніца, любімая жонка **Галіна Баян-Ключнікава.**

Пазнаёміліся яны яшчэ ў студэнцтве. Так і ішлі па жыцці разам. Галіна Аляксееўна абаранила два франты – творчы і сямейны. У Ключнікавых тры сыны: **Дзяніс** – пайшоў па слядах бацькі і працуе майстрам-рэстаўратарам струнных інструментаў і артыстам філарманічнага аркестра, **Рыгор** – выкладчык Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, **Уладзімір** – піяніст.

Уладзімір Рыгоравіч Ключнікаў выхаваў не толькі сваіх сыноў, але за час працы ў музычным каледжы Агінскага выпусціў каля 30 музыкантаў-кантрабасістаў.

Рыгор Сарока, дырэктар Маладзечанскага музычнага каледжа імя Агінскага, сказаў пра Уладзіміра Ключнікава:

– Ёсць у любым калектыве асобы, калі яны сыходзяць у іншы свет – дык замяніць іх практычна немагчыма... Вельмі няправільная думка аб тым, што незаменных людзей няма. Замяніць можна пасаду, а чалавека, асобу – не!

З сыходам Уладзіміра Рыгоравіча Ключнікава музычны каледж і ўвогуле струннае смычковае інструментальнае выканальніцтва Беларусі страціла цудоўнага майстра па рамонце, рэстаўрацыі і нават вырабе вельмі складаных, тонкіх, далікатных музычных інструментаў, якімі з'яўляюцца скрыпка, альт, віяланчэль, басэтля.

Таму аб Ключнікавумайстру самыя лепшыя ўспаміны і ўдзячнасць за яго многія гады працоўнай дзейнасці ў нашай знакамітай установе.

**Наталля ТУР.**



Фота забяспечанае Маладзечанскім музычным каледжам

Уладзімір Рыгоравіч Ключнікаў у сваёй майстэрні. Рамантуе віяланчэль.

# Кіраўнік велапаходу: будзеце блага сябе паводзіць, не пушчу ў лазню

МАЛАДЗЕЧНА

**У сямідзённы велапаход маладзечанцы выправіліся 8 чэрвеня.**

За сем дзён дзевяць чалавек, амаль усе пенсійнага ўзросту, прайшлі 384 кіламетры па Маладзечаншчыне, Вілейшчыне, Мядзельшчыне, Смаргоншчыне.

У склад групы увайшлі **Сяргей Бялкоў, Іван Апанасевіч, Ірына Харашэвіч, Таццяна Андронава, Святлана Маліноўская, Міхаіл Шульжыцкі, Леанід Федарэнка, Уладзімір Міхайлаў, Вячаслаў Жураўлёў.**

Сваімі ўражаннямі ад велавандроўкі падзялілася Святлана Маліноўская, адна з удзельніц паходу.

– Такія вандроўкі ніколі не надакучваюць і не стамляюць, – прызнаецца Святлана. – Ехалі ў сваё задавальненне. І за гэты тыдзень наведалі столькі цікавых месцаў, што і ўявіць сабе цяжка.

Пачалася велавандроўка з наведвання палаца Агінскага ў Залессі.

– Нам вельмі пашанцавала з экскурсаводам. Я столькі новага даведалася пра нашага славутага кампазітара. Напрыклад, і ўявіць не магла, што ў яго было столькі жанчын. Упершыню пабачыла, што ў Беларусі расце інжыр. Гэта ў зімовым садзе палаца. Уразіў таксама і мемарыял у Смаргоні, які прысвечаны Першай сусветнай вайне. А ў Паставах пашчасціла трапіць ажно на тры канцэрты.

Яшчэ ўдзельнікам паходу спадабалася наведванне аптэкарскага саду, што на Мядзельшчыне.

– Асабліва ўразіў лабірынт з лекавых раслін. Там, у лабірынце, нават ложкі стаяць травяныя. Можна легчы і адпачыць. І вельмі спадабалася, што напрыканцы экскурсіі частуюць гарбатай з раслін, якія ў гэтым аптэкарскім садзе і растуць. А да гарбаты яшчэ свойскі мёд і джэм. Смаката!

Надвор'е, прызнаецца Святлана, у паходзе было рознае. Хапіла і сонца, і дажджоў і нават замаразкаў.

– У Паставах давялося нават начаваць у сябра нашага кіраўніка паходу. На вуліцы абяцалі замаразкі, баяліся змерзнуць. Таму начаваць давялося ў кватэры. Спалі на падлозе, у калідоры, але затое было цёпла і весела.

У дарозе, вядома, не абыходзіцца і без паломак, без прыгод.

– Але, на шчасце, вялікая скрыня з інструментамі, якую вёз наш механік, нам не спатрэбілася. Былі дробныя паломкі: то спіца, то яшчэ нешта. У Маладзечне, ледзьве толькі ад'ехаліся ад месца, зламаўся ровар у нашай самай малодшай удзельніцы. Але яго рамантаваць не сталі. Я прапанавала ўзяць яшчэ адзін мой ровар.

З кіраўніком паходу Сяргеем Бялковым, прызнаецца Святлана, ім пашанцавала.

– Пра такіх, як Сяргей Бялкоў, гавораць, што ён строгі, але справядлівы. Калі мы парушалі правілы, напрыклад, па дарозе рухаліся не адзін за адным, а побач, Сяргей пагражаў, што парушальнікаў не пусціць мыцца ў лазню.

Святлана Маліноўская прызнаецца, што за лета нават не паспявае разабраць свой паходны заплечнік. Бо толькі вяртаецца з аднаго паходу, як тут жа выпраўляецца ў другі.

**Наталля ТУР.**



Фота з асабістага архіва Святланы МАЛІНОЎСКАЙ.

Удзельнікі велапаходу у Смаргоні ля "Мядзведжай акадэміі".




Фота Волі ТРУБАЧ.

Сёлета Грузія святкавала 26-я ўгодкі аднаўлення незалежнасці. Свята запомнілася вялікай колькасцю дзіцячых спеваў і танцаў, ад якіх у першую чаргу атрымлівалі асалоду самі грузіны.

● У ДАРОЗЕ

# Падарожжа па гасціннай Грузіі

**Стаць сябрам намесніка міністра; пабыць ва ўніверсітэце, куды студэнты прыходзяць і па нядзелях**

**Нечакана Грузія зноў пастукала ў маё жыццё. Я з небывалай радасцю прыняла гэта запрашэнне.**

Першы раз я патрапіла ў гэту тэмпераментную краіну ў 2014 годзе. Вандравала сваім улюбёным спосабам – аўтаспын, заплечнік, кашы, палатка. Карацей кажучы, вандроўка была прасякнутая невядомасцю.

Цяпер усё было інакш – падарожжа было распісанае літаральна па хвілінах. Сустрэча ўяўляла азнаямляльны візіт пад назвай "Прынцыпы добрага кіравання ў сферы культуры і устойлівага развіцця: грузінскі досвед". Арганізатарамі выступілі беларуская грамадская аб'яднанні.

У гэтым візіце паўдзельнічалі прадстаўнікі з розных гарадоў Беларусі, якія актыўна развіваюць культурнае жыццё і спрыяюць устойліваму развіццю свайго горада. Цікава было пачуць і падзяліцца сваім досведам з удзельнікамі.

У сярэднім на дзень было па тры сустрэчы. Сярод іх з Міністэрствам рэгіянальнага развіцця і інфраструктуры, Міністэрствам культуры і аховы помнікаў, Свабодным універсітэтам Тбілісі, Нацыянальнай адміністрацыяй турызму, мэрыяй Тбілісі.

Мы наведалі Тбіліскі гістарычны музей, здзейснілі экскурсію па старым Тбілісі, трапілі ў старажытную сталіцу Грузіі – Мцхету і пашпацыравалі па галоўным праспекце Тбілісі, Руставелі, падчас Дня Незалежнасці. Сёлета Грузія святкавала 26-я ўгодкі аднаўлення сваёй незалежнасці.

Свята запомнілася вялікай колькасцю дзіцячых спеваў і танцаў, ад якіх у першую чаргу асалоду атрымлівалі самі грузіны, мора кветак, мноства пляцовак для самых маленькіх.

### Улада адкрытая і пазітыўная, як звычайныя людзі

Сустрэчы мелі афіцыйны характар. Але грузінскія прадстаўнікі ўлады як дзяржаўных, так і недзяржаўных устаноў шчыра прымалі нашу дэлегацыю. Не было складанасці ў камунікацыі – любы мог задаць пытанне.

Параўнаўшы свой мінулы досвед камунікацыі з грузінамі, якіх я сустракала ў дарозе, і цяперашнімі сустрэчамі з уладай, адрозненняў не заўважыла – тая ж адкрытасць, пазітыўны погляд на свет.

Чырвонай ніткай праходзіла жаданне розных галін улады дэлегаваць частку сваіх паўнамоцтваў мясцоваму насельніцтву. Гэта значыць, калі помнік знаходзіцца на тэрыторыі сяла, то ў першую чаргу пра яго павінны клапаціцца мясцовыя жыхары.

Магчыма, на гэта ў тым ліку ўплывае невялікая колькасць насельніцтва ў краіне, дзе жыхары праз знаёмых ведаюць адзін аднаго.

### Грузінская ўлада кантактуе з насельніцтвам праз сацсеткі

Улада робіць стаўку на сацсеткі і актыўна іх выкарыстоўвае пры ўзаемадзеянні з насельніцтвам. Напрыклад, пасля таго, як наведалі Міністэрства ўнутраных спраў, былі здзіўленыя, калі ладная частка нашай дэлегацыі апынулася ў сябрах у facebook у намесніка міністра.

Узгадаўшы Міністэрства унутраных спраў, варта адзначыць, што пасля праведзеных рэформ сярод насельніцтва значна павысіўся давер да праваахоўных органаў. Адкрытасць іх можа ўбачыць любы праезджы: ва ўчастках вялікія вокны, якія дазваляюць назіраць за працай. Гэты спосаб паляпшае ўзаемаразуменне і карупцыю сярод прадстаўнікоў праваахоўных органаў.

У апошні дзень мы наведалі храм Джвары, які ўваходзіць у спіс Сусветнай спадчыны ЮНЕСКА. Храм знаходзіцца на зліцці дзвюх рэчак: Куры і Арагві. Менавіта тут роўнаапостальная Ніна ўсталявала крыж, які азначаў – Грузія прыняла хрысціянства.

### Універсітэт, куды студэнты наведваюцца нават па нядзелях

Аднак больш за ўсё мяне ўразіў Свабодны ўніверсітэт Тбілісі. Ён створаны ў 2007 годзе шляхам зліцця Еўрапейскай школы менеджмента і Тбіліскага ўніверсітэта Азіі і Афрыкі. Заснавальнікам яго з'яўляецца былы міністр эканомікі Грузіі, бізнесмен, ініцыятар рэформ **Каха Бендукідзэ**. Ён лічыў, што галоўным рухам у развіцці краіны з'яўляецца асабістая ініцыятыва.

Універсітэт займае першыя пазіцыі ў рэйтынгу лепшых універсітэтаў краіны.

Свабодны ўніверсітэт – адзіная ўстанова Грузіі, у якой можна вучыцца бясплатна. Але для гэтага трэба набраць вялікую колькасць балаў на дзяржаўным тэставанні.

Студэнты вольна адчуваюць сябе на падлозе калідораў, рыхтуючыся да заняткаў, ключы на вахце ў свабодным доступе; а бібліятэка – вялікі вулей з шафамі кніг да самай столі.

Падчас экскурсіі па ўстанове нам паказалі кіберлабараторыю, прыкладна з такім апісаннем: "Прафесара вы тут не пабачыце, ён даў заданне, а студэнты самастойна працуюць над ім, бывае, што і па нядзелях наведваюцца сюды!"

Шчырая цікавасць да таго, што адбываецца, і актыўны ўдзел – апісанне атмасферы, якая пануе ва ўніверсітэце. Ды не толькі ва ўніверсітэце, але і ва ўсёй краіне. Гэтаму варта павучыцца.

Да сустрэчы, Грузія!



**Воля ТРУБАЧ.**
E-mail: ydaroze@mail.ru

КНІГІ

# Не ведаеш арфаграфію – тры гады ссылкі дапамогуць запомніць правілы

**Дзеля таго, каб уявіць, якім было б ваша жыццё ў СССР у 30-х гадах, не варта мучыцца і будаваць машыну часу. Прапануем вам проста рашыць філалагічную задачу.**

Расстаўце правільна знакі прыпынку ў наступным сказе: "Тэхніка ў перыяд рэканструкцыі вырашае ўсё Сталін". Але памятайце, кропка альбо коска не ў тым месцы можа каштаваць вам трох гадоў вольнага жыцця, бо чакае ссылка.

Кніга **Анатоля Рыбакова** "Дзеці Арбата" нават у дэталях акунае нас у тую атмасферу.

Аўтар выдатна адлюстраваў эмацыйны бок эпохі: з аднаго боку – гэта вера маладых у правільнае кіраванне партыі, у светлую будучыню. З іншага – людзі, якія на сабе адчулі сталінскі рэжым. Яны ўжо ніколі не будуць такімі, як раней.

### Сумленны і беспрынцыповы – рана ці позна даскачашся

У рамане паказанае жыццё **Сашы Панкратава**, яго сям'і, сяброў. Юнак бязмежна верыць у сілу савецкай улады і гатовы будаваць светлую будучыню. Але савецкая сістэма выпрабоўвае нават веру чалавека, які інтарэсы краіны ставіць вышэй за свае.

Саша – сумленны малады чалавек, які змагаецца за справядлівасць. Некаторыя людзі не вераць у тое, што можна захаваць і пранесці гэтыя якасці праз жыццё, упэўненыя, што рана ці позна хлопец пры пануючай сістэме "даскачацца".

Так і здараецца. Пасля таго, як пад яго кіраўніцтвам выйшла газета ў гумарыстычнай форме. Гэту справу разглядаюць на студэнцкім сходзе, хлопца выключаюць з інстытута. Аднак ён верыць, што праўда і партыя на яго баку, таму шукае паратунку ў вышэйшых інстанцыях. Яму гэта ўдаецца, аднак сістэма ўжо пачала працаваць супраць яго. Саша трапляе ў турму, пасля – у ссылку.

З іроніяй у гэтым выпадку адзін з герояў прамаўляе, наколькі гуманнай з'яўляецца савецкая сістэма: "Вы выпусцілі няправільную сценгазету, заўтра выдасце падпольны часопіс, паслязаўтра лістоўкі. Гэта нават гуманна: за сценгазету вам далі тры гады, за лістоўкі прыйшлося б расстраляць – вам збераглі жыццё".

### Падслухаць думкі Сталіна

Падчас ссылкі Саша даведваецца праз гісторыі іншых ссыльных, якой для іх з'яўляецца савецкая сістэма. Напрыклад, у ссылку можна трапіць нават за няведанне пунктуацыі ці няправільнае вымаўленне: "У нашай установе вісеў лозунг: "Тэхніка ў перыяд рэканструкцыі вырашае ўсё. Сталін". ...Я прачытаў яго адной выдатнай дзяўчыне. І яна ўлічыла мяне ў няведанні пунктуацыі. Ёй падалося, што я прачытаў лозунг так: "Тэхніка: у перыяд рэканструкцыі вырашае ўсё Сталін". Яна была дзяўчынай адукаванай, не магла перанесці майго невуцтва і падзялілася сваімі думкамі з кім трэба. У мяне заўсёды было дрэннае вымаўленне, і я думаў – ну, атрымаю за гэта добрую вымову. Атрымаў артыкул 58 пункт 10: контррэвалюцыйная агітацыя і прапаганда. Яшчэ добра, палічылі, што трох гадоў мне хопіць на вывучэнне арфаграфіі".

Кніга цікавая і ў тым плане, што чытач бачыць не толькі жыццё простых людзей, аднак можа падслухаць думкі самога Сталіна, убачыць, чаго баіцца гэты чалавек, за што перажывае, як можа трымаць у страху цэлую краіну.

Пра што думае Сталін? Чаго баіцца? Ці здолее пранесці веру ў партыю, захаваць ранейшыя перакананні Саша Панкратаў – адказы шукайце ў кнізе.

**Галіна СІНІЦА.**



Фота for-love.ru

Фільм па кнізе Анатоля Рыбакова "Дзеці Арбата" экранізаваў Андрэй Эшпай. Фільм выйшаў у 2004 годзе.

**Цытаты з рамана**

1. Незразумелае яшчэ не ёсць няправільнае.
2. Не крыўдзіць – значыла не супярэчыць.
3. Калі людзі не могуць жыць разам, яны павінны разысціся.
4. Незаменных у нас няма: сёння я, а заўтра ты. Хаця калі ўдумацца, то гэтыя словы бессэнсоўныя. Калі ў бібліятэцы няма Пушкіна, я магу замяніць яго Талстым, але гэта будзе Талстой, а не Пушкін.
5. Ашчаджаць сябе – значыць, не ашчаджаць іншых.
6. Людзі і ў горшых умовах застаюцца людзьмі.
7. Адзеннем адны падкрэсліваюць багацце, іншыя імкнуцца схаваць беднасць.
8. На самой справе, улада раз'ядноўвае, бо кожны імкнецца захапіць яе.

ГАРАСКОП

1-7 ЛІПЕНЯ



**Авен.** Калі вам дарагі чалавек, з якім вы сустракаецеся, то не варта весці сябе так, быццам бы вы зусім свабодныя ад абавязацельстваў перад ім.



**Цялец.** Вы шмат набудзеце. Аднак лёс прынясе сюрпрыз. Вас будуць хваляваць сферы, далёкія ад прафесійнага жыцця. Не будуць яны мець адносінаў і да фінансаў.



**Блізняты.** Навакольныя раздражняюць вас сваімі паводзінамі. Не гарачыцеся! Дзейнічайце пацішу, выкарыстоўваючы ўласцівы вам шарм і знаходлівасць.



**Рак.** Паспрабуйце своечасова выконваць узятыя абавязацельствы – так будзе лягчэй пазбегнуць непаразуменняў. Сярод спраў і вялікіх планаў не забывайце пра адпачынак.



**Леў.** Добрыя справы, здаровы лад жыцця будуць рабіць вас больш чыстымі духоўна і маладзейшымі фізічна. Акружыце сябе ўсім, што вы любіце.



**Дзева.** Прыслухайцеся да голасу інтуіцыі і знайдзіце ключык да сэрца начальства – тады з'явіцца магчымасць прасоўвання па службе.



**Шалі.** Падзеі не прымаюць станоўчую ці адмоўную афарбоўку: яны проста здараюцца. Гэта "проста жыццё" можа падацца сумнаватым. Аднак планеты прыбралі з яго стрэсы, каб вы ўбачылі рэаліі. Рыхтуйцеся да пераменаў.



**Скарпіён.** Спалучайце актыўнасць з адпачынкам, і вы заўважыце, што не толькі не стамляецеся, але нават набіраецеся сіл і з кожным днём адчуваеце сябе больш бадзёрымі.



**Стралец.** Ліпень для вас – лепшы месяц для адпачынку. Дазвольце сабе расслабіцца. Калі ж адпачынак вы запланавалі на іншы месяц, то хоць у выхадныя выязджайце на прыроду.



**Казярог.** Калі з вамі здарылася якая непрыемнасць, то памятайце правіла: "маланка ніколі не б'е ў адно месца". І заўсёды знойдуцца людзі, якія дапамогуць выбрацца з сітуацыі.



**Вадалей.** Вам зоркі даюць шанс, які выпадае не так часта. Яны дораць магчымасць праявіць сябе і забяспечаць апекай любыя вашы ідэі. І памятайце правіла трох Н: няма нічога немагчымага.



**Рыбы.** У вас шмат талентаў і здольнасцяў, для раскрыцця якіх трэба прыкладаць намаганні. Гэта той самы час, калі здаровы эгаізм неабходны, каб больш трывала замацавацца ў жыцці.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | | | | | 2 | | 5 |
| | | 6 | | | 5 | | 7 | |
| | 8 | | 2 | 9 | | | 4 | |
| | | | | | | 7 | | |
| 5 | 9 | | 7 | | 3 | | 8 | 2 |
| | | 8 | | | | | | |
| | 5 | | | 4 | 2 | | 3 | |
| | 3 | | 9 | | | 4 | | |
| 2 | | 9 | | | | | 6 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3x3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



СМАЧНА ЕСЦІ

## Сельдэрэй



Гэты рэцэпт даслала нам наша чытачка **Ларыса Нелюб** з Валожыншчыны.

### Бульбяны суп-пюрэ з сельдэрэем і курынымі клёцкамі

*6 бульбін, 4 сцяблiны сельдэрэю, 1 цыбуліна, 2,5 л вады, 200 мл тлустых вяршкоў, 20 г масла, соль – на смак.*

Для курыных клёцак: палова курынай грудкі (без скуры і касцей), 1 яйка, соль і прыправы – на смак.

Бульбу абярыце, нарэжце кубікамі і заліце вадой. Сцяблiны сельдэрэю наражце на кавалачкі 1-2 см. Цыбулю парэжце дробна.

У каструлі распусціце кавалачак масла, дадайце цыбулю і трохі абсмажце – 1-2 хвіліны. Дадайце да цыбулі сельдэрэй, зноў 1-2 хвіліны смажце, і, нарэшце, дадайце кубікі бульбы. Памешваючы, абсмажце ўсю агародніну яшчэ хвіліны тры.

Заліце агародніну вадой, давядзіце да кіпення, паменшыце агонь і варыце, пакуль не зварыцца бульба. Зніміце каструлю з агню і дайце супу астыць.

Цяпер прыгатуйце курыныя клёцкі. Мяса дробна пасячыце ці прапусціце праз мясарубку, дадайце яйка, здробненую зеляніну, пасаліце і вымесіце фарш. Пастаўце яго ў халадзільнік.

Суп здрабніце пры дапамозе блэндара. Пастаўце кіпяціць ваду ў каструльцы. Дастаньце фарш. Дзве чайныя лыжкі апусціце ў халодную ваду, затым адной лыжкай зачарпніце фарш, другой прыцісніце зверху, каб атрымалася прыгожая гладкая клёцка. Апусціце клёцкі ў кіпячую ваду і варыце да гатоўнасці. Калі клёцкі ўсплывуць, перакладзіце ў асобную талерку.

Суп-пюрэ трохі пагрэйце і ўліце вяршкі, іх можна дадаць нават не 200 мл, а 300, калі суп густы. Размяшайце, разагрэйце, але не кіпяціце. Гатовы суп-пюрэ разліце па талерках, раскладзіце ў кожную талерку клёцкі і пасыпце сечанай зелянінай сельдэрэю.

**Проста МАРЫЯ.**

